# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

## ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:



ЛІПЕНЬ 1934 г. 14

Журнал ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда"

# Змест

*Стар.*

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Нам. адказнага рэдактара А. ЦЫПІНА*

ЛІПЕНЬ 1934 г. № 14

Выходзіць 2 разы ў месяц

Адрас рэдакцыі і выдавецтва МЕНСК, Совецкая, 63

## ПА-ДЗЕЛАВОМУ РЫХТАВАЦЦА

### ДА 3-га УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ

ЦК КП(б)Б пастанавіў склікаць у кастрычніку гэтага года 3-ці усебеларускі з'езд рабселькораў і рэдактароў нізавых газет.

З часу 2-га Усебеларускага рабселькораўскага з'езда прайшло ўжо тры гады. За гэтыя тры гады вырас і ўмацаваўся раённы друк БССР (раённыя газеты створаны ва ўсіх раёнах), створан новы атрад большэвіцкага друку—газеты палітаддзелаў МТС і соўгасаў. А разам з гэтым вырас і колькасна і якасна нізавы друк на соцыялістычных прадпрыемствах, у соўгасах і калгасах, вырасла і ўмацавалася рабселькораўская армія.

За гэтыя тры гады нізавы друк і рабселькоры БССР прайшлі вялікую школу барацьбы за ажыццяўленне задач соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы.

XVII з'езд ВКП(б) паставіў перад партыяй, а гэта значыць і перад усім большэвіцкім друкам і яго рабселькораўскай арміяй, велізарнейшыя задачы. Сотні нізавых газет на фабрыках і заводах, на чыгуначным транспарце, у соўгасах і калгасах, тысячы рабселькораў БССР паказалі ўжо ўзоры большэвіцкай барацьбы за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

3-ці Усебеларускі з'езд рабселькораў падвядзе вынікі работы нашага друку і рабселькораў за прайшоўшыя тры гады, вынікі барацьбы за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, вызначыць далейшыя задачы рабселькораў у барацьбе за соцыялізм.

Да з'езда засталося больш 2-х месяцаў. Гэты час раённыя, палітаддзельскія, транспартныя, фабрычна-заводскія газеты павінны скарыстаць для шырокага разгортвання падрыхтоўкі да з'езда, гэта значыць, для ўмацавання нізавога друку і работы з рабселькорамі.

«Лічачы падрыхтоўку да з'езда рабселькораў справай усёй КП(б)Б, бюро ЦК пастанаўляе: прапанаваць гаррайкомам, палітаддзелам МТС і соўгасаў правесці з 21 ліпеня па 1 кастрычніка агляд нізавога друку пад кутом погляду ўмацавання работы рабселькораў у барацьбе за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і наступных пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаннях сельскай гаспадаркі, прамысловасці, апалу і т. д.» — так запісана ў пастанове ЦК.

Між тым, пераважная большасць цэнтральных, раённых, палітаддзельскіх і фабрычна-заводскіх газет фактычна да гэтай падрыхтоўкі яшчэ не прыступілі. Большасць газет да гэтага часу абмежаваліся тым, што надрукавалі пастанову ЦК аб скліканні з'езда.

Такое становішча з падрыхтоўкай да з'езда недапушчальна. Гэту работу партыйныя арганізацыі, цэнтральны, раённы, палітаддзельскі і фабрычна-заводскі друк павінны зараз-жа разгарнуць. Імена зараз трэба распачаць агляд нізавога друку. Асноўны змест агляду вызначаны ў пастанове ЦК. Трэба толькі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы для таго, каб гэты агляд прайшоў па-дзелавому, каб за час агляду сапраўды ўмацаваць сувязь і канкрэтнае кіраў-



ніцтва нізавым друкам і рабселькорамі, яшчэ больш пашырыць і ўмацаваць сетку нізавых газет, палепшыць іх работу.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б), ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б паставілі перад партыйнай арганізацыяй, перад друкам БССР адказнейшыя задачы ў галіне ўборкі і ўсіх відаў загатовак, у галіне ўздыму і развіцця жывёлагадоўлі. Барацьба за ажыццяўленне гэтых задач і павінна легчы ў аснову агляду нізавых калгасных і соўгасных газет. Задача заключаецца ў тым, каб за час агляду распрацаваць з селькорамі і рэдкалегіямі нізавых газет пастановы пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, дапамагчы ім распрацаваць і правесці канкрэтныя мерапрыемствы па ажыццяўленню гэтых рашэнняў. Разам з гэтым трэба шырока асвятляць на старонках раённага і палітаддзельскага друку работу нізавых калгасных і соўгасных газет, даваць агляды гэтых газет, арганізаваць абмен вопытам іх работы па асобных канкрэтных пытаннях. За час агляду насценгазет неабходна дабіцца арганізацыі насценгазет на кожнай жывёлагадоўчай калгаснай ферме, стварэння газет ва ўсіх калгасных брыгадах.

Барацьба за стопроцантнае выкананне промфінплана, паляпшэнне якасці прадукцыі, поўны ахоп рабочых палітычнай і тэхнічнай вучобай — вось змест агляду нізавых фабрычна-заводскіх газет. Зараз павінна разгарнуцца падрыхтоўка прадпрыемстваў да зімы. Забеспячэнне прадпрыемства і рабочых апалам, падрыхтоўка складаў, гароднінахавальняў, тар для закваскі капусты і гуркоў, рамонт кватэр рабочых, вопраткі, абутку і т. д. —усё гэта рашае паспяховую работу прадпрыемстваў зімою. Вось чаму ў часе падрыхтоўкі да з'езда фабрычна-заводскія шматтыражкі, цэхавыя і брыгадныя насценгазеты павінны правесці вялікую работу па падрыхтоўцы да зімы. Разам з аглядам нізавых газет трэба разгарнуць рабкораўскія рэйды па праверцы ўсіх галін падрыхтоўкі да зімы як самога прадпрыемства, так і рабочых. Уся гэта работа павінна легчы ў аснову агляду нізавога друку.

У парадку падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў трэба разгарнуць **масавае спаборніцтва нізавых газет, рабселькораў на права ўдзелу ў рабстах з'езду.**

З прапановай аб'явіць усебеларускае спаборніцтва рабселькораў выступілі на старонках газеты «Рабочий» рабкоры-ўдарнікі, выдатнікі, значкісты «ЗОТ» Барысаўскай запалковай фабрыкі «Пролетарская перамога».

Рабкоры фабрык і заводаў павінны разгарнуць спаборніцтва на поўнае выкананне колькасных і якасных паказальнікаў промфінплана, на лепшую арганізацыю тэхнічнай і палітычнай вучобы, на лепшую падрыхтоўку да зімы, на сумесную работу з інжынерна-тэхнічнымі работнікамі, на дапамогу друку падшэфных калгасаў.

Рабкоры транспарта павінны спаборнічаць на лепшую арганізацыю барацьбы за выкананне ўсіх паказальнікаў конкурса «Праўды», на замацаванне вынікаў усебеларускага рэйда на транспарце.

Рабселькоры соўгасаў і калгасаў павінны спаборнічаць на лепшае правядзенне ўборкі і загатовак усіх відаў, на лепшую барацьбу за рэалізацыю рашэнняў партыі аб уздыме і развіцці жывёлагадоўлі.

У гэтае спаборніцтва трэба ўцягнуць увесь нізавы друк, усіх рабселькораў.

«Спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку да з'езда — пішуць ударнікі-рабкоры фабрыкі «Пролетарская перамога» — павінны праходзіць аператыўна, а галоўнае, канкрэтна і па-дзелавому, без параднай шуміхі і трэскатні. Такую дзелавітасць і канкрэтнасць забяспечыць штодзеннае кіраўніцтва партыйных арганізацый друкам і рабселькорамі.

Па паспяховаму завяршэнню ўборкі, па своечасоваму выкананню плана паставак і ўсяго цыкла асенніх сельскагаспадарчых работ, па паспяховаму выкананню промфінплана 3-га квартала і арганізаванаму правядзенню асенне-зімовых перавозак, па сотнях новых значкістаў «ЗОТ» і выдатнікаў будзе расцэньвацца ход спаборніцтва друку і рабселькораў».

Гэта пісьмо—выклік рабкораў «Пролетарскай перамогі» — трэба абгаварыць на парадах рабкораў і селькораў, распрацаваць канкрэтныя паказальнікі

спаборніцтва, апаратыўна кіраваць спаборніцтвам.

На старонках газет трэба шырока паказваць лепшых рабселькораў-ударнікаў, лепшыя нізавыя газеты, паказваць іх работу, як яны рыхтуюцца да з'езда. А гэта немагчыма без дакладнага ўліку нізавых газет і рабселькораў, без цеснай жывой сувязі з імі. Вось чаму і партыйныя арганізацыі і асабліва газеты павінны наладзіць зараз улік насценгазет і рабселькораў, завязаць з імі жывую сувязь. У часе агляду нізавых газет, спаборніцтва рабселькораў газеты павінны выкрыць ілжэселькораў класава-варожых людзей, зладзеяў, гультаёў, ачысціць ад іх рабселькораўскія рады.

І разам з гэтым трэба ў часе падрыхтоўкі да з'езда асабліва ўзмацніць работу з пісьмамі і карэспандэнцыямі рабселькораў, узмацніць барацьбу за рэагаванне на рабселькораўскія заметкі.

А гэтая работа пастаўлена ў нас яшчэ вельмі дрэнна. Возьмем хаця-б лёзненскую райгазету «Ленінскі сцяг», якая сама праяўляе чыноўніцкія, бюракратычныя адносіны да сігналаў сваіх селькораў. Аб гэтым яскрава сведчыць ліст селькора **Шаірко,** які мы друкуем сёння. А лёзненская-ж газета не адзінока. Такія адносіны да селькораўскіх матэрыялаў ёсць і ў радзе іншых газет. З гэтым трэба раз назаўсёды пакончыць. Яшчэ горш з рэагаваннем на заметкі рабселькораў у раённых арганізацыях. Вось чаму ЦК у сваёй пастанове запісаў: «Лічачы ўсё яшчэ нездавальняючым рэагаванне на заметкі рабселькораў, прапанаваць усім партарганізацыям, рэдакцыям газет і пракуратуры ўстанавіць такі парадак рэагавання, які-б забяспечыў максімальную дзейснасць рабселькораўскіх заметак, змяшчаемых як у цэнтральным, так і нізавым друку».

У часе падрыхтоўкі да з'езда трэба правесці рэйды праверкі рэагавання, выкрыць бюракратаў, зажымшчыкаў крытыкі і самакрытыкі, дабіцца хуткага і вычэрпваючага рэагавання.

За апошнія месяцы выкрыта рад фактаў ганенняў на селькораў, аб якіх пісалася ўжо ў нашым журнале, у «Звяздзе». Раённыя газеты аказаліся не на вышыні сваіх задач у гэтай справе. Факт-жа, што нам. рэдактара лёзненскай раённай газеты тав. **Лейбін** палічыў збіенне селькора **Каралёва** «не такой важнай справай», што райпракурор перадаў гэту справу... калгаснаму суду. Факт жа, што чавуская раённая газета таксама не ўзяла селькораў пад сваю абарону. Такіх фактаў шмат. Вось чаму ў перыяд падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда трэба асаблівую ўвагу звярнуць на барацьбу з праследваннем селькораў, узнімаць кожны такі выпадак на адпаведную палітычную вышыню, выкрываць контр-рэвалюцыйную сутнасць ганенняў на селькораў, дабівацца самага суровага пакарання глушыцеляў большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі.

І нарэшце, падрыхтоўку да з'езда трэба скарыстаць для арганізацыі сістэматычнай вучобы рэдактароў нізавых газет і рабселькораў. У папярэднім нумары журнала мы пісалі аб вопыце правядзення курсаў-семінараў рэдактароў нізавых газет праведзеных палітаддзелам 1-й Менскай МТС. Сёння мы змяшчаем вопыт правядзення палітаддзелам Копыльскай МТС «дня селькора» ў калгасе імя **Ланцуцкага.**

Гэты вопыт раённыя, палітаддзельскія, фабрычна-заводскія газеты павінны шырока скарыстаць. Арганізацыя гурткоў і семінараў пры рэдакцыях газет, на прадпрыемствах, у соўгасах і калгасах, арганізацыя рабкораўскіх габінетаў на буйных прадпрыемствах, правядзенне рабселькораўскіх нарад, «дня селькора» — усе гэтыя формы вучобы рабселькораў трэба скарыстаць для таго, каб узняць кваліфікацыю рэдактароў нізавых газет і рабселькораў, каб выканаць указанне ЦК аб тым, што асноўнай крыніцай фармавання газетных кадраў павінны быць рабселькоры-ўдарнікі.

Газеты павінны паставіць пытанне перад усімі нізавымі партыйнымі арганізацыямі, што **падрыхтоўка да з'езда рабселькораў — справа ўсёй КП(б)Б,** правяраць і паказваць на сваіх старонках як партарганізацыі арганізоўваюць і кіруюць гэтай падрыхтоўкай.

Канкрэтна, па-дзелавому трэба рыхтавацца за 3-га рабселькораўскага з'езда, з тым каб прыйсці да яго з новымі дасягненнямі ў рабоце нізавога друку і рабселькораў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

# Забыты абавязак

Калгасная праўда

Сталінскі заклік

Нарада ільнаводаў-вопытнікаў пры рэдакцыі «Звязды» знайшла гарачы водгук у газеце «**СТАЛІНСКІ ЗАКЛІК**».

Чорным шрыфтам на ўвесь разварот газета напісала: «Палкае, большэвіцкае, палітаддзельскае прывітанне злёту калгасных майстраў соцыялістычнага ільнаводства». Пад шапкай: **«У дапамогу нам намеснікі старшынь па ільну»** яна сцісла і талкова паказала вопыт перадавікоў у барацьбе за лён высокай якасці.

Чытач даведаўся, што паводле думкі ільнаводаў неабходна:

**«Пачаць цярабленне ільну не пазней 15 ліпеня, а па раду раёнаў і калгасаў яшчэ раней. Да кожнага калгаса давесці планы церабленьня, выходзячы з тэрмінаў сяўбы. Агульная працягласць церабленьня—не больш 7-8 дзён...**

**Загадзя падрыхтаваць участкі для работы ільнацерабілак, своечасова падрыхтаваць кадры церабільшчыкаў».**

Чытач даведаўся, што сартаванне пры церабленні (падвойнае і патройнае)—рашаючая ўмова атрымання высокаякаснага ільну. Словам, вуснамі ільнаводаў газета пазнаёміла калгаснікаў з усімі асноўнымі працэсамі ўборкі і апрацоўкі ільну.

Гэта было 25 чэрвеня. Да ўборкі ільну астаўся які-небудзь тыдзень-другі. Мы ў праве былі чакаць, што газета, якая так палка віншавала злёт ільнаводаў, скарыстае час, што астаўся, для арганізацыі калгасаў на правядзенне ўказаных мерапрыемстваў. Мы ў праве былі чакаць, што газета перш за ўсё пацікавіцца, як складзены ўборачныя планы ў калгасах, ці спалучаюць яны адначасовую ўборку жыта і ільну, чаго патрабуюць умовы гэтага года, як расстаўлены сілы, ці забяспечваюцца ўказаныя ільнаводамі сціслыя тэрміны церабленьня і, нарэшце, у якім стане знаходзяцца ільнацерабілкі, якое месца ім адводзіцца ва ўборачнай.

Прайшло больш за месяц. Лён ужо даўно паспеў і ў зоне дзейнасці Гарадоцкай МТС, як і ў большасці раёнаў Беларусі. Але газета «Сталінскі заклік» нечакана страціла ўсякую цікавасць да ільну. Як відаць, яна палічыла, што апублікаваннем мерапрыемстваў яна вычарпала свае абавязкі. Ніводнага трывожнага сігналу, ніводнага станоўчага прыкладу з фронта ўборкі.

Але можа быць усё добра ў Гарадку на гэтым участку?

З раённай газеты **«Калгасная праўда»** мы бачым, што гэта не так.

Са зводкі на 25-е, апублікаванай 30 ліпеня, відаць, што па раёну выцераблена ўсяго 3,2 проц. ільну, у той час як спаборнічаючы з Гарадком Лёзненскі раён выцерабіў ужо 38 проц., Аршанскі—звыш 50 проц., а Сенненскі—70 проц. У наяўнасці—найглыбейшы прарыў. Здаецца, ёсць ад чаго прачнуцца ад сну, узяцца за справу. Але «Сталінскі заклік» і «Калгасная праўда» прадаўжаюць бяздзейнічаць.

«Калгасная праўда» на 30 ліпеня заносіць на чырвоную дошку Канчанскі сельсовет, які, як відаць са зводкі, змешчанай тут-жа, яшчэ зусім не прыступаў да церабленьня ільну, а «Сталінскі заклік» у якасці дасягнення адзначае, што ў калгасе імя Молатава выцерабілі 0,8 гектара. Характэран сам загаловак да гэтай заметкі: «Дзе паспела, там і ўбіраем». Дазвольце не паверыць, таварышы з «Сталінскага закліку». Калі-б убіралі «там, дзе паспела», то не была-б ваша МТС (і ўвесь раён) у апошніх радах па ільнаводчай зоне.

«Калгасная праўда», якая ўсё-ж успамінае аб ільне трохі часцей чым «Сталінскі заклік», праліває некаторае святло на прычыны адставання.

Мы даведваемся, што:

«Калгас «Чырвоны сцяг» запраектаваў церабленне ільну скончыць за... 20 дзён (№ 84)

— што ў раёне ёсць каля 60 ільнацерабілак... Аднак, ільнацерабілкі выкарыстоўваюцца дрэнна... Беспераборнай работы ільнацерабілак няма амаль нідзе.

Газета ные з поваду гэтых і другіх недахопаў, не ўказваючы, як правіла, нават канкрэтных вінаватых, не прымаючы ніякіх мер для выпраўлення становішча.

Ні разу не паказала яна на канкрэтным прыкладзе, як можна скласці план уборкі і расставіць сілы з разлікам скончыць церабленне ільну за 5-6, а не за 20 дзён, або як выкарыстаць на рабоце «Комсамолку». Газета, як відаць, сама не ўсвядоміла тэхнікі справы.

Кожны раз, калі «Калгасная праўда» прабуе даць становучую праграму дзеяння, яна блытае і няправільна арыентуе калгаснікаў. У № 98 газета піша аб працы ільнацерабілак, якія ўбіраюць гектар у дзень, і ставіць задачай **«дабіцца, каб кожная церабілка выцерабіла 1,5 гектара»** (?), у той час, як мы ведаем, што «Комсамолка» свабодна можа выцерабіць **2-2,5 гектара.**

У другім месцы газета заяўляе:

> **Вядома, што без машын калгас не можа справіцца з уборкай... (№ 90, заметка «Гора-кіраўнік»).**

Атрымліваецца, што калі калгас не мае машын, ён немінуча павінен праваліць уборку.

Нарэшце, ад бясплодных прычытанняў «Калгаснай праўды» калгасы Гарадоцкага раёна атрымліваюць не больш карысці, чым ад маўклівага спакою «Сталінскага закліку». Блытаныя ўстаноўкі толькі збіваюць калгасы з толку.

Гарадоцкі раён недапушчальна адстаў з ільнацерабленнем. Значная доля віны за гэта адставанне кладзецца на газеты «Калгасная праўда» і «Сталінскі заклік», якія забылі свой важнейшы абавязак — **быць арганізатарамі мас.**

# НЕАПРАЎДАНАЯ НАЗВА

> **УДАРНІК**
> Орган Суражскага РК КП(б)Б і РВК

Ударнік—ганаровая назва. І шмат чаму яна абавязвае таго, хто яе носіць.

У Суражы выдаецца раённая газета **«УДАРНІК».** Газета, як арганізатар мас, заклікана адыграць велізарную ролю ў барацьбе за своечасовую і без страт уборку ўраджаю, за хутчэйшае правядзенне хлебапаставак.

Пазнаёмімся бліжэй са старонкамі «Ударніка», прааналізуем іх змест, паглядзім масавую работу газеты.

29 чэрвеня на старонках раённай газеты выступіў брыгадзір калгаса «Спартак», удзельнік усебеларускага злёта пераДавых брыгадзіраў тав. **Жаркоў.**

Ён абавязаўся перад усім раёнам «быць першым у правядзенні ўборкі» і расказаў аб сваіх поспехах на сяўбе і праполцы. Тут-жа тав. Жаркоў выклікаў усіх калгасных брыгадзіраў Суражскага раёна на соцыялістычнае спаборніцтва па ўборцы і хлебапастаўках.

Рэдакцыя раённай газеты махнула рукой на ініцыятыву лепшага брыгадзіра-ўдарніка. На яго заклік ніхто чамусці ў чарговых нумарах раённай газеты не адгукнуўся.

Дзе водгукі селькораў, дзе іх пісьмы? Няма!

Дзе адказы брыгадзіраў на выклік тав. Жаркова?

Таксама няма!

Дзе апаратыўныя падборкі аб ходзе касьбы, аб падрыхтоўцы жняярак, кос, малатарань?

І іх таксама няма!

Аб чым-жа ў такім выпадку піша газета «Ударнік»?

9 ліпеня рэдакцыя газеты дае на ўсю першую паласу трывожны аншлаг:

**«Не дапусціць занясенне нашага раёна на чорную дошку».**

Але не падумайце, што гэта папярэджанне датычыць і раённай газеты. Ніколькі! У рэдакцыі адна ўзаконеная форма работы—даваць па кожнаму рашаючаму пытанню адну, і ў рэдкіх выпадках дзве селькораўскія заметкі.

**«Ганебна зацягнулі ўборку»**

**«Аўтухоў зрыўшчык сенаўборкі».**

—вось стыль апрацоўкі і падачы гэтых заметак, якім час-ад-часу ўдаецца папасці на старонкі раённай газеты.

14-га ліпеня газета вымушана была даць перадавы артыкул, у якім гаворыцца аб адставанні раёна па ўборцы. Рэдакцыя мімаходам прызнаецца, што «наш раён занесен на чорную дошку». І газета павучае па прынцыпу: Іван ківае на Пятра.

**«Аднак гэта рашучае папярэджанне не ўлічана да гэтага часу некаторымі сельсоветамі, калгасамі і раённымі арганізацыямі».**

Дасталося ўсім за выключэннем адной рэдакцыі. Праўда, яна за ліпень не дала ні адной падборкі аб спаборніцтве на ўборцы, яна злачынна прамаўчала і аб барацьбе са стратамі. Гэту важнейшую справу, якая павінна займаць у газеце цэнтральнае месца, рэдакцыя вырашыла проста. Яна ў сваім перадавым артыкуле дала некалькі, так сказаць, дырэктыўных радкоў:

**«Наша задача састаіць у тым, каб сабраць ураджай без страт у самыя кароткія тэрміны. Усе тыя недахопы, якія былі ў часе ўборкі мінулага года, павінны быць улічаны ўсімі калгасамі. У гэтым годзе такіх недахопаў не павінна быць».**

А дзе канкрэтныя меры, дзе паказ ролі калгаснай дзетвары ў зборы каласоў? Дайце хоць адну папулярную заметку аб узорнай рабоце жняяркі, малатарні. Няма гэтага ў суражскай раённай газеце.

У тыя дні, калі рэдактар раённай газеты тав. **БАРАНАЎ** пісаў у перадавым артыкуле (пісем калгаснікаў па гэтаму пытанню газета не друкуе):

**«...Падрыхтаваць жывую цягавую сілу каб яна была ў добрым цэле і магла добра працаваць»,**

калгасы Запольскага сельсовета пачыналі жніво. Гэты факт рэдакцыя адзначае нібы тэлеграфнай інфармацыяй:

**«ЗЖАТА 13,80 ГА.**

**Заполле: перадавыя калгасы распачалі масавую ўборку зернавых. На 20 ліпеня калгас імя Сталіна зжаў 2,30 га ячменю, «Шлях соцыялізма»—1 га жыта і 3 га ячменю, «Бескласавая грамада»—0,50 га ячменю, «Першае мая»—2 га жыта, «Чырвоны сцяг»—4 га ячменю і 1 га жыта.**

**Выканалі поўнасцю план сеназдачы дзяржаве калгасы «Бескласавая грамада» і «Ударнік другой пяцігодкі». Гэтымі калгасамі ў асноўным ужо закончана сенакашэнне».**

Голая хроніка замест канкрэтнага паказу першых дзён уборкі.

Урэшце, схамянулася рэдакцыя, успомніла пра хлебапастаўкі і нібы для страхоўкі выкідвае лозунг:

**«Ліпень і жнівень—рашаючыя месяцы ў выкананні хлебапаставак».**

А сама апрача гэтага лозунга, не давала і не дае ніякіх матэрыялаў.

Пастановай камісіі па спаборніцтву з Заходняй вобласцю Суражскі раён зноў занесен на чорную дошку **«за ганебны зрыў чарговых мерапрыемстваў па барацьбе за ўраджай і ганебныя тэмпы хлебапаставак».**

У Суражскім раёне на 30 ліпеня абмалочана 10 проц. зжатага збожжа, гадавы план хлебапаставак выканан толькі на 0,9 проц. Раённая-ж газета спакойна. Яна змясціла за ўвесь ліпень 6 дзесяціradковых селькораўскіх заметак аб уборцы азімых і хлебапастаўках. Але і ў гэтых адзінокіх пісьмах не гучыць селькораўскі голас барацьбы са стратамі, барацьбы за хутчэйшае выкананне калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай. Заметкі «падпрацаваны» ў сценах рэдакцыі, падгладжаны бюракратычнай мовай літаратурнага апрацоўшчыка і інфармуюць усяму раёну аб тым, што «ўборка распачалася», «хлебапастаўкі на пасу».

Паўстае рэзоннае запытанне да тав. Баранава: **ударнікам якіх мерапрыемстваў з'яўляецца суражскі «Ударнік»?**

# „Ваш доп:і:с не пойдзе“

## За соцыялістычную свінагадоўлю

25-га чэрвеня газета **«За соцыялістычную свінагадоўлю»**—орган палітаддзела свінасоўгаса «Вейна» (Магілеўскі раён)—дала наступны адказ селькору:

> **«Тав. Аліпатаву. Ваш допіс пад загалоўкам «Як вядуць улік цялят і жарабят» не пойдзе. Пры праверцы факты не пацвердзіліся. Улік ужо ўстаноўлен».**

Значыць, допіс «не пацвердзіўся». Учора развалены ўлік жывёлы, аб чым сігналізаваў рабкор, сёння «ўжо ўстаноўлен». Пісьмо рабкора «спазнілася».

Праўда, у тым-жа адказе рабкору рэдакцыя нібы сумняваецца ў належнай арганізацыі ўліку жывёлы ў соўгасе і, супярэчачы самой сабе, раіць селькору:

> **«Пішыце, як справа абстаіць з улікам свінапагалоўя...»**

Але наўрад ці стане больш пісаць тав. Аліпатаў, бо яго факты «не пацвярджаюцца».

Падалі мы гэты ляпсус у паштовай скрынцы газеты таму, што ён адлюстроўвае і дапаўняе малюнак усёй сістэмы работы газеты з пісьмамі свінароў-ударнікаў. За два месяцы рэдакцыя змясціла ў сваёй газеце 36 рабкораўскіх заметак, подпісы пад якімі наводзяць на сумныя вывады.

Рэдактар газеты **М. Пінскі.** Адсюль зразумела, чаму ў газеце «рабкораўскія» заметкі часта падпісваюцца ініцыяламі «М. П.» Безумоўна, ніхто не адмаўляе таго, што рэдактар павінен пісаць у сваю газету, але яго матэрыял ні ў якім разе не павінен выцясняць рабкораўскі матэрыял. Гэтага не ўлічыў тав. Пінскі.

Перад намі 17-ы нумар газеты за 5 чэрвеня. На першай старонцы рэдакцыйны артыкул (трэба меркаваць, напісаны самім тав. **Пінскім) «Даб'емся высокага ўраджаю соўгасных палёў».** Пад артыкулам ідзе другі—расказ тав. **Пінскага «Будні нашай брыгады».**

На другой старонцы «Ліст вытворча-тэхнічнай канферэнцыі комсамольцаў» і ў якасці падвёрсткі невялічкая заметка **«Не дапусціць завальвання свінарнікаў гноем».** Аўтар яе тут ужо схаваўся за ініцыяламі **«М. П.».**

На трэцяй старонцы зноў **Пінскі,** але ўжо ў ролі агранома-арганізатара і падпісвае артыкул «Забяспечыць жывёлу кармамі».

Уважліва шукаем у камплекце газеты выступленняў майстроў соцыялістычнай жывёлагадоўлі, тых, хто практычна змагаецца за лепшы догляд свіней, за поўнае захаванне апаросу, за чыстату ў свінарніках. Але, на вялікі жаль, гэтых выступленняў мы не знайшлі.

Газета ў сваім загалоўку паставіла адказную задачу: змагацца «За соцыялістычную свінагадоўлю». Але-ж пакажыце, тав. Пінскі, хоць адну вашу старонку, якая насычана гэтай барацьбой за соцыялістычную свінагадоўлю, з якой можна было-б хоць даведацца, што соўгас «Вейна» сапраўды свінагадоўчы, а не зернавы ці ільнаводчы.

У чэрвені газета дала некалькі артыкулаў аб сяўбе і праполцы (апаратыўных падборак газета не практыкуе), у ліпені змясціла некалькі артыкулаў аб уборцы азімых і касьбе. А пра важнейшы свой цэх—пра свінагадоўлю—газета проста забыла. Ці ёсць у соўгасе насгул свінні і хто іх даглядае?—вось якое пытанне можа паставіць тав. Пінскаму чытач палітаддзельскай газеты.

Газета «За соцыялістычную свінагадоўлю» не стала яшчэ агульнадаступнай, масавай газетай. А адсюль і вынік—газета не стала аператыўным арганізатарам рабочых на выкананне важнейшых задач свінагадоўчага соўгаса.

Нават абвешчаны палітаддзелам рэйд праверкі і падрыхтаванасці соўгаса да ўборкі газета праваліла. А рэдакцыі і ў прыватнасці тав. Пінскаму было даручана:

> **«Аператыўна асвятляць ход рэйда ў шматтыражцы «За соцыялістычную**

**свінагадоўлю» і ў насценгазетах паляявога цэха».**

Газета толькі адзначае ў спецыяльным артыкуле тав. Пінскага, што «**Са стратамі змагаемся слаба**» (такі загаловак артыкула), або пытае: «**Чаму задавіўся жарабёнак?**» І гэта пытанне падпісвае «**Кампост**». Кампост не той, якім угнойваюць глебу. Не! Рэдакцыя ўкладае ў гэта слова разуменне—камсамольскі пост. Наўрад ці зразумеюць гэты шыфр чытачы.

***

Бюро ЦК КП(б)Б у пастанове аб рабоце цэнтральных газет з рабселькорамі і пісьмамі працоўных адзначыла: «**Абавязаць гаркомы і райкомы КП(б)Б, палітаддзелы і рэдактароў газет дэкаднік друку гэтага года правесці пад кутом гледжання максімальнага ўзняцця работы з рабселькорамі і забеспячэння беражлівых і ўважлівых адносін да кожнай заметкі і да пісем працоўных**».

Тав. Пінскі прайшоў міма гэтага ўказання. Рэдагуемая ім газета не загаварыла баявымі заметкамі рабкораў-ударнікаў. Пісем на старонках газеты не павялічылася. Рабкоры свінагадоўчага соўгаса атрымліваюць з рэдакцыі адказ: «Ваш допіс не пойдзе».

# АМАТАРЫ АЛІЛУЙШЧЫНЫ




Спачатку дзве даведкі.

У сакавіку гэтага года ЦК КП(б)Б зняў кіраўніцтва Дубровенскага раёна за дапушчэнне масавага забою жывёлы.

У Дуброўне знаходзіцца фабрыка «**Дняпроўская мануфактура**». Фабрыка шэфствуе над Мардашэвіцкім сельсоветам. Факты драпежніцкага знішчэння маладняка жывёлы мелі месца і ў гэтым сельсовеце.

Здавалася-б, што партарганізацыя фабрыкі, фабрычная шматтыражка «**ЗА ПРОМФІНПЛАН**» (рэдактар тав. **РАБІНОВІЧ**) абавязаны былі ўлічыць урокі раёна, зрабіць для сябе практычныя вывады з пастановы ЦК КП(б)Б па матэрыялах «Правды» «Скот уничтожают на глазах райкома», узмацніць работу ў падшэфным сельсовеце.

А тое, што шэфская работа на фабрыцы пастаўлена дрэнна, рэдактар шматтыражкі ведае добра.

31 сакавіка шматтыражка «За промфінплан» выступіла з артыкулам «Даб'емся поўнага захавання маладняка ў нашым падшэфным сельсовеце».

> **«Справа шэфства над сельсоветам пастаўлена з рук вон дрэнна»...**

> **Якая карысць можа быць ад таго, што мы наскокамі наведваем свае падшэфныя калгасы? Зразумела, што ніякай, бо мы дэталёва не можам унікнуць у сутнасць справы таго ці іншага падшэфнага калгаса»,—**

піша газета.

Зусім правільна. Наскокамі праводзіць шэфскую работу нельга. І газета «За промфінплан» павінна была ў першую чаргу гэта ўлічыць. А галоўнае добра запамятаць свае ўласныя радкі:

> **«Мы не можам дапускаць, каб у нашым падшэфным сельсовеце, таксама як і ў ва ўсім раёне, знішчалася жывёла...**
>
> **...Партыйцы, камсамольцы фабрыкі павінны памятаць, што за справу жывёлагадоўлі ў нашым падшэфным сельсовеце яны нясуць поўную адказнасць».**

Прайшоў красавік, май, чэрвень, ліпень, а ў газеце «За промфінплан» **ніаднаго слова** аб становішчы жывёлагадоўлі, аб барацьбе са знішчэннем маладняка ў падшэфным сельсовеце, ні слова аб тым, **як дапамагае фабрыка падшэфным калгасам у развіцці жывёлагадоўлі.**

У тым-жа (да рэчы адзіным за 4 месяцы) артыкуле газета піша:

> **«Мы не маем права і надалей так дрэнна шэфстваваць, як мы шэфствавалі да гэтага часу...**
>
> **Досыць ігнараваць шэфработу. Пера-**

**творым наш падшэфны сельсовет ва ўзорны ва ўсім раёне».**

Нядрэнны заклік. Але і гэты заклік астаўся толькі пустым гукам, бо сама газета аб ім назаўтра-ж забыла.

Мардашэвіцкі сельсовет правёў сяўбу, праполку, уздым цаліны, сенаўборку. У часе сяўбы сельсовет заваяваў пераходны чырвоны сцяг РК і РВК. Задачай газеты «За промфінплан» было: арганізаваць увесь рабочы калектыў, нізавы друк і рабкораў фабрыкі на дапамогу падшэфнаму сельсовету, замацаваць поспехі сяўбы ў часе ўборкі і хлебапаставак. Гэтага газета не зрабіла. Ні слова не было ў газеце аб рабоце падшэфнага сельсовета ў часе сяўбы, ні слова няма і зараз—у часе ўборкі. І гэта не гледзячы на тое, што па ўборцы сельсовет адстае, што ад яго адабралі пераходны чырвоны сцяг.

Балбатнёй, алілуйскімі заклікамі газета «За промфінплан» падмяніла канкрэтную практычную работу па шэфству.

ВЦСПС на другі дзень пасля пленума ЦК ВКП(б) аб'явіў усесаюзны конкурс прафесіянальных і шэфскіх арганізацый на перыяд уборкі, хлебаздачы і асенняй сяўбы. Задачы конкурса—забяспечыць практычную дапамогу падшэфным МТС і калгасам у рэалізацыі рашэнняў пленума ЦК ВКП(б). Конкурс будзе закончан 1 снежня. Аднак, фабрычна-заводскія газеты яшчэ не ўключыліся ў гэты конкурс і не ўзначалілі яго на фабрыцы, заводзе.

Уборка і хлебапастаўкі ў поўным разгары. Неабходна, каб фабрычна-заводскія і транспартныя газеты зараз-жа разгарнулі масавую работу сярод рабочых сваіх прадпрыемстваў, рабкораў, арганізавалі іх на практычную дапамогу падшэфным калгасам своечасова і без страт завяршыць уборку, захаваць ураджай, выканаць свае абавязкі перад дзяржавай.

---

# Невялікая піонерская

## *Замест прывітання газеце „Піонерская Звязда" палітаддзела Цялушскай МТС*

Піонеры і вучні — ударнікі вучобы і пільныя вартавыя соцыялістычных палёў калгасаў Цялушскай МТС атрымалі ад палітаддзела дарагі падарунак: 1-га жніўня вышаў першы нумар газеты **«Піонерская звязда».**

Яны могуць смела ганарыцца падарункам палітаддзела: першы нумар «Піонерскай звязды» зроблен іменна так, як трэба рабіць піонерскую газету.

Чатыры невялікія старонкі... На гэтых старонках калгасныя дзеці расказваюць аб тым, як яны ахоўваюць соцыялістычны ўраджай, збіраюць каласы, шэфствуюць над парасятамі і цялятамі, як яны адпачываюць у лагеры.

Палітаддзельцам удалося ўзяць правільны тон у першым нумары газеты калгаснай дзетвары. Першы нумар «Піонерскай звязды» насычан баявым нагledзенным матэрыялам, і гэты матэрыял падан **жыва, маляўніча.** Трэба толькі радавацца за дзяцей калгасаў Цялушскай МТС: яны атрымалі газету, якую з захапленнем прачытаюць ад пачатку да канца.


ПІОНЕРСКАЯ ЗВЯЗДА

Орган палітаддзела Цялушскай МТС. Бабруйскага раёна.

№ 1. | 1 жніўня 1934 г. | № 1.

Нявялікую жывую газету для піонераў.

РЭБЯТА!

Вось вам своя „Піонерская звязда".

Гляддзіце:

Даламажыце-ж нашай газеце „Піонерскай звяздзе".

Будзеце актыўнымі селькорамі „Піонерскай звязды".

„Піонерская звязда"

Будзем актыўнымі юнкорамі нашай „Звязды".

Першая старонка «Піонерскай Звязды».

**«Рэбята! Вось вам свая «Піонерская звязда».**

Гэтымі цёплымі і простымі словамі пачынаецца невялічкі рэдакцыйны артыкул, прысвечаны выпуску першага нумара. Рэдакцыя расказвае, за што будзе змагацца разам са сваімі чытачамі-піонерамі і вучнямі газета «Піонерская звязда» і заклікае калгасную дзетвару прыняць самы актыўны ўдзел у сваёй газеце.

У першым нумары «Піонерскай звязды» прынялі ўдзел дванаццаць піонераў. Для пачатку зусім не дрэнна. Але гэта павінна быць пачаткам арганізацыі **сотень** калгасных дзеткораў вакол сваёй газеты. «Палітаддзельская звязда» павінна быць не газетай для дзяцей, а **газетай саміх дзяцей.**

Пачалі рэбяты не дрэнна. Вось для прыкладу заметка «Чырвоным макам рассыпаліся піонеры на полі».

**«Ударна ідзе ўборка ў калгасе «Ўсход».**

**146 га жыта і ячменю зжата да 31 ліпеня.**

**Чырвоным макам па полю рассыпаліся піонеры і школьнікі і ВЕСЕЛА і РАДАСНА СТАЛА НА ПОЛІ.**

Яны за тры дні сабралі 200 кіло каласоў.

Заметка кароткая, напісана зразумелай і жывой мовай. У астатніх заметках такой-жа жывой мовай гаворыцца таксама пра ўдзел піонераў у барацьбе са стратамі. Дзве заметкі прысвечаны шэфству піонераў над маладняком. У нумары змешчаны тры адпавядаючыя тэксту карыкатуры.

Таварышам з «Піонерскай звязды» трэба заўсёды памятаць асаблівасці работы з дзецьмі. Трэба вывучаць тыя пытанні, якія цікавяць і хвалююць калгасную дзетвару. А цікавіцца калгасная дзетвара цяпер многім, пачынаючы ад новай цікавай кніжкі і канчаючы лятаючай авіямадэлью, аўтамашынай, совецкай Арктыкай. Падумайце добра, якія з гэтай безлічы пытанняў вы зможаце паставіць у далейшых нумарах газеты.

Чаму-б, напрыклад, вам не азнаёміць дзяцей з трактарам. Надрукуйце кароткае апісанне пабудовы трактара, арганізуйце ў адным з калгасаў гурток юных аматараў трактара, потым няхай дзетвара апіша свой вопыт у газеце.

Або такая справа, як развядзенне хатняй птушкі. Дзеці тут могуць вельмі і вельмі многае зрабіць. Раскажыце ім пра інкубатар, пра пародзістых курэй, гусей, дапамажыце дастаць іх яйкі.

Паглядзіце, што чытаюць дзеці. Раскажыце ім пра цікавыя і карысныя кніжкі, парайце, дзе іх можна дастаць. Друкуйце выказванні саміх дзяцей аб прачытаных кніжках.

Будзіце ініцыятыву калгасных дзяцей. У вас у калгасах напэўна ёсць такія, якія прабуюць пісаць вершы. Адшукайце такіх дзяцей, дайце ім указанні, парайце, што ім чытаць. Лепшыя іх вершы надрукуйце ў газеце. Асобую ўвагу звярніце на таленавітых дзяцей і ўсяляк ім дапамагайце.

Вельмі добра будзе, калі вы завядзеце ў «Піонерскай звяздзе» куток адпачынку піонераў і будзеце ў ім друкаваць рэбусы, шарады, частушкі і т. д.

Вы павінны выхоўваць з вашых чытачоў—піонераў і школьнікаў граматных і культурных будаўнікоў соцыялізма. Больш займайцеся **якасцю** вучобы дзяцей у школе. Але памятайце і аб тым, што вашы чытачы будуць вучыцца граматнасці і культурнасці і па «Піонерскай звяздзе». З гэтага вывад: **рабіце газету граматна і культурна.** У першым-жа нумары вашай газеты ў галіне мовы, хоць і мала, а ўсё-ж хібы ёсць.

У вас надрукавана:

**«Каласы яны збіраюць, хто ў кашолке, што ў мяшку».**

А трэба было напісаць «у кашолку», «у мяшку». Вы пішаце «ферма калгасу «Будзёнага», трэба-ж пісаць «ферма калгасу імя Будзённага». Не зусім трапная «шапка» над трэцяй старонкай. «На ферме звініць ад дзіцячых галасоў». Па сэнсу «шапка» добрая, арыгінальная, толькі трэба было яе напісаць так: **«На ферме звіняць дзіцячыя галасы».**

Вось, таварышы палітаддзельцы, нашы заўвагі па першаму нумару выданай вамі «Піонерскай звязды». Жадаем першай у БССР палітаддзельскай дзіцячай газеце найбольшых поспехаў.

*Г. Гурэвіч*
Адказны кіраўнік БЕЛТА

# Міжнароднай і саюзнай інфармацыі —пачэснае месца у раённым друку

У лютым мінулага года раённаму друку было разаслана пісьмо загадчыка культпропа ЦК ВКП(б) тав. **СТЭЦКАГА** аб абавязковым друкаванні інфармацыі ТАСС для раённых газет.

Гэта паказвае, якое значэнне надае ЦК нашай партыі друкаванню міжнароднай і ўнутрысаюзнай інфармацыі ў раённым друку.

Калгасны чытач праяўляе вельмі вялікі інтарэс да міжнароднай і ўнутраной інфармацыі, што сведчыць аб аграмадным культурным і інтэрнацыянальным росце калгасных мас.

Але паміма гэтага зусім ясна, што інфармацыя, напрыклад, аб гераічным паўстанні аўстрыйскіх рабочых у лютым гэтага года, або аб класавых баях, якія адбыліся не так даўно ў Амстэрдаме, або аб грандыёзнай забастоўцы ў Сан-Францыско—мае выключнае інтэрнацыянальна-выхаваўчае значэнне.

З другога боку, інфармацыя аб ходзе соцыялістычнага будаўніцтва дэманструе нашы аграмадныя поспехі, узбуджае дух соцыялістычнага спаборніцтва, знаёміць з лепшым вопытам і ўзорамі работы, ламае мясцовую абмежаванасць, паказваючы агульнасць інтарэсаў усёй вялікай соцыялістычнай краіны Советаў.

Усё гэта даволі элементарна, але тым не менш аб гэтым прыходзіцца гаварыць і пісаць, бо для многіх раённых газет гэта пытанне яшчэ з'яўляецца спрэчным, паколькі міжнародная і ўнутрысаюзная інфармацыя на старонках газет з'яўляецца рэдкім і непрызнаным госцем.

Гэта тым больш недапушчальна, што для шырокіх мас калгасных чытачоў **раённая газета з'яўляецца адзінай крыніцай інфармацыі.** Таму, ігнаруючы інфармацыю, рэдактары газет свядома астаўляюць свайго чытача без міжнароднай і унутранай інфармацыі.

Мы маем вельмі абмежаваную колькасць газет, якія сістэматычна друкуюць інфармацыю на сваіх старонках (Чэрвень, Быхаў, Расоны, Узда, Клімавічы, Сянно, Гарадок, Лельчыцы, Мазыр і інш.).

Пераважная большасць газет інфармацыю друкуюць не сістэматычна, з вялікімі прапускамі, што называецца на падвёрстку. У гэтых газетах міжнародная і ўнутраная інфармацыя з'яўляецца, так сказаць, «незаконным відам» інфармацыі, які можа знайсці месца на старонках газеты толькі ў тым выпадку, калі «законная» мясцовая інфармацыя чаму-небудзь не займае поўнасцю ўсёй плошчы газеты. Нарэшце, мы маем шмат газет, якія наогул ніякай інфармацыі не друкуюць (Касцюковічы, Дуброўна, Ветка і інш.).

Не прыходзіцца гаварыць аб тым, што падобныя адносіны да міжнароднай і ўнутраной інфармацыі гавораць толькі аб палітычнай блізарукасці некаторых рэдактароў, аб неразуменні імі таго, што 200-300 радкоў, адведзеных у нумары пад інфармацыю, не адбіраюць гэтага месца ў страту мясцовай інфармацыі, а наадварот дапамагаюць мясцовай інфармацыі, актывізуюць яе, правільна ўвязваючы мясцовыя пытанні і інтарэсы з агульна-дзяржаўнымі, не дапускаючы іх адрыву адны ад другіх і тым больш процістаўлення адны другім.

Возьмем к прыкладу выкарыстанне інфармацыі ў трох раённых газетах: **хойніцкай, петрыкоўскай і рэчыцкай.** Дзве першыя газеты знаходзяцца ў аддалёных пунктах БССР. Газеты цэнтральныя і мясцовыя пападаюць туды

не так хутка. Тым больш можна было меркаваць, што газеты тэтых раёнаў будуць сістэматычна друкаваць інфармацыю. Між тым сапраўдны стан рэчаў зусім іншы.

**У хойніцкай газеце за студзень і люты не змешчана ніводнай інфармацыйнай заметкі.** Газета зусім прайшла міма лютаўскіх падзей у Аўстрыі. Толькі 27 і 28 лютага газета змяшчае водгукі і выклікі па аказанню дапамогі ахвярам лютаўскіх баёў у Аўстрыі.

**У сакавіку** змешчаны тры заметкі ў нумарах ад 3 і 6 сакавіка.

**У красавіку** (ў нумары ад 30 красавіка) надрукавана адразу сем заметак.

**У маі** інфармацыю знаходзім у трох нумарах—ад 5, 8 і 18 мая, прычым 18 мая змешчана адразу пяць заметак.

**У чэрвені** надрукавана 6 заметак у нумарах 5, 8, 12 і 26 чэрвеня.

**У ліпені** інфармацыя змешчана ў трох нумарах (7, 24 і 27 ліпеня), прычым з шасці інфармацыйных заметак ні адной унутрысаюзнай.

**Усяго з 70 нумароў газеты інфармацыя змешчана толькі ў трынаццаці нумарах—18,5 проц.**

Не на многа адрозніваецца становішча і ў петрыкоўскай і рэчыцкай газетах.

У петрыкоўскай газеце **ў выпушчаных ад пачатку года да 27 ліпеня 63 нумарах інфармацыя змешчана толькі ў 11,** а ў рэчыцкай з 89 нумароў, вышаўшых з 1 студзеня па 1 красавіка,—у 20-ці.

Даны малюнак як нельга лепш паказвае тую бессістэмнасць у друкаванні інфармацыі, якая пануе ў гэтых газетах. Інфармацыя друкуецца без усякага плана і сістэмы, ад выпадку да выпадку, нават зусім не ўлічваючы яе важнасці і значэння.

Трэба адзначыць, што, на жаль, аналагічнае становішча можна сустрэць і ў многіх іншых раённых газетах.

Другое, не менш важнае пытанне, гэта якасць інфармацыі.

Трэба перш за ўсё адзначыць не зжытую яшчэ тэндэнцыю рабіць ва што-б там ні стала «сваю ўласную» інфармацыю. Гэта саматужніцтва матывуецца галоўным чынам меркаваннямі большай «свежасці» інфармацыі і атрымліваемай эканоміі. Ці трэба гаварыць, што выйгрыш у «свежасці» інфармацыі атрымліваецца зусім нязначным, а «эканомія» скрозь і ўсюды ідзе за кошт якасці інфармацыі, бо апошняя робіцца часта слаба кваліфікаванымі работнікамі без усякага адбору і апрацоўкі яе, часта выключна пры дапамозе нажніц і клею. Пры гэтым нават у газетах, якія даюць у асноўным граматную інфармацыю, сустракаюцца ляпсусы, накшталт сцвярджэння, што Амстэрдам з'яўляецца сталіцай Галандыі, а астатнія газеты, скрозь і ўсюды даюць інфармацыю, якая зусім не разлічана на чытача раённай газеты.

На самой справе, што дасць чытачу такое перадрукаванне з «Праўды», змешчанае ў рагачоўскім «Комунары» *).

> **«Пушчаны чуткі, што ўрад Дольфуса рашыў падаць у адстаўку і створан новы ўрад на пачатках кампраміса між старым габінетам і нацыянал-соцыялістамі».**

Або далей:

> **«У сувязі з судом, які адбудзецца над двума нацыянал-соцыялістамі іх арганізацыя (?) пагражае адмоўнымі рэпрэсіямі: узарваць сабор святога Сцефана і захапіць у якасці заложнікаў некалькі ксяндзоў».**

Ці не ясна, што падобная, не апрацаваная і не каментаваная інфармацыя не толькі малазразумела калгаснаму чытачу, але і стварае ў яго адваротнае ўяўленне аб фашыстах, як аб антыклерыкалах і нават аб барацьбітах супроць рэлігіі.

Або, у гэтым-жа нумары рагачоўскай газеты змешчана такая інфармацыя:

> **«ЛОНДАН. Агенства Рэйтэр паведамляе з Парыжа, што паводле вестак, атрыманых там з Вены Дольфус забіт. Фей фарміруе новы габінет».**

Колькі недаўменных пытанняў выклікае гэта інфармацыя: што такое «агенства Рэйтэр», чаму яно паведамляе з Парыжа аб падзеях у Вене, а сама

*) Прыводзім у вытрымках.

інфармацыя ідзе з Лондана; хто такі Дольфус і Фей і т. д.

Таму найбольш правільным з'яўляецца, як гэта і прапануе пісьмо культпропа ЦК ВКП(б), каб райгазеты карысталіся інфармацыяй ТАСС, або ў БССР— інфармацыяй Белта для раённых газет. Гэта інфармацыя ў апошні час робіцца ў комплексным, спецыяльна пераапрацаваным выглядзе і разлічана на чытача калгаснай газеты.

Паміма інфармацыі, Белта зараз пачало перадаваць кароткія міжнародныя агляды, якія ўжо знайшлі сваё прызнанне на старонках раённых газет. Палепшана таксама і прасоўванне інфармацыі на месцы шляхам заключэння спецыяльнага дагавору з радыёаддзелам аб дастаўцы ўсім раённым газетам інфармацыі зараз-жа па прыёме. Трэба адзначыць, што змешчаны ў папярэднім нумары журнала «Большэвіцкі друк» артыкул «Па прынцыпу еж, што даюць» правільна крытыкуе недахопы весніка ў мінулым. Але ў апошні час змест весніка Белта несумненна палепшыўся.

У выніку крыху палепшылася скарыстанне інфармацыі Белта раённымі газетамі і, у прыватнасці, палітаддзельскімі газетамі, якія таксама цяпер атрымліваюць інфармацыю Белта. Аднак, гэтыя зрухі зусім недастатковы. Папершае, толькі каля паловы райгазет БССР з'яўляюцца падпісчыкамі і больш-менш сістэматычнымі спажыўцамі раённай інфармацыі Белта. Перад намі стаіць задача—ахапіць усе без выключэння раённыя і палітаддзельскія газеты інфармацыяй Белта, дабіцца сістэматычнага друкавання яе на старонках газет. Па-другое, вялікая работа яшчэ прадстаіць па далейшаму паляпшэнню якасці інфармацыі. Па-трэцяе, неабходна дабіцца ўзорнай перадачы інфармацыі ў чым мы маем яшчэ многа буйных недахопаў.

Гэтыя задачы могуць быць вырашаны з поспехам толькі пры актыўнай дапамозе і ўдзеле саміх раённых газет, якія непасрэдна зацікаўлены ў якасці інфармацыі Белта. Само сабой зразумела, што побач з гэтым павінна быць рашуча зламана недаацэнка інфармацыі, якая радам газет дагэтуль яшчэ не зжыта.

ЦК КП(б)Б у сваім апошнім рашэнні па дакладу Белта прапануе: **«У мэтах сістэматычнага асвятлення пытанняў міжнароднага і ўнутрысаюзнага жыцця абавязаць усе райгазеты падпісацца на радыё-інфармацыю Белта і сістэматычна яе друкаваць».**

Гэта рашэнне накладвае вялікія абавязкі як на ўвесь раённы друк, у якім асноўныя пытанні міжнароднага і ўнутранога жыцця павінны знаходзіць сваё поўнае і сістэматычнае адлюстраванне, так і на Белта, якое павінна значна палепшыць якасць сваёй работы.

Агульнымі намаганнямі гэта задача павінна быць вырашана.

*В. Зайцаў*

# Увага школе і настаўніку

ЦК ВКП(б) паставіў перад нашай совецкай палітэхнічнай школай адказнейшыя задачы—выхоўваць усебакова развітых актыўных удзельнікаў социялістычнай будоўлі.

Паспяховае вырашэнне задач, якія стаяць перад школай, у значнай меры залежыць ад падрыхтоўкі да новага навучальнага года.

Школе і настаўніку трэба да пачатку заняткаў стварыць усе ўмовы для нармальнай, бесперабойнай работы. Першага верасня ў школы прыдуць новыя дзесяткі тысяч дзяцей. Для іх неабходна вучэбная плошча. Адна з баявых і неадкладных задач—своечасовае сканчэнне новага будаўніцтва.

Амаль у кожным горадзе і раёне мы маем такія факты, калі частку школьных памяшканняў займаюць розныя арганізацыі і прыватныя асобы. У Гомелі, напрыклад, адзін школьны будынак заняты прыватнымі жыхарамі. Трэба забяспечыць безагаворачнае выкананне ды-

рэктыў аб высяленні прыватных асоб са школ і аб перадачы школам былых школьных будынкаў.

Другая, не менш важная задача—своечасовы і добраякасны рамонт школьных памяшканняў. Школа да пачатку заняткаў павінна быць забяспечана дастатковай колькасцю стабільных падручнікаў, вучэбных і пісьмовых прылад. Палітэхнічныя майстэрні і рабочыя пакоі павінны быць не толькі адрамантаваны, але і папоўнены абсталяваннем. Трэба загадзя забяспечыць, каб дзеці з першага-ж дня заняткаў мелі смачныя гарачыя снеданні.

Трэба ўжыць усе захады да таго, каб ні адно дзіця школьнага ўзросту не асталося па-за сценамі школы. Вось чаму пры сельскіх няпоўных і поўных сярэдніх школах неабходна арганізаваць інтэрнаты, каб дзеці з далёкіх калгасаў і вёсак маглі бесперабойна наведваць заняткі.

І, урэшце, самае галоўнае—кожная школа павінна быць своечасова ўкамплектавана настаўнікамі і дзецьмі, а настаўнікі забяспечаны яшчэ да пачатку заняткаў вучэбнымі планамі, праграмамі і мэтадычнымі дапаможнікамі.

Канкрэтную і штодзённую дапамогу школе ў падрыхтоўцы да новага навучальнага года павінен аказваць увесь цэнтральны, раённы і нізавы друк БССР. Раённая газета павінна ўзяць пад свой неаслабны кантроль найбольш адказныя ўчасткі падрыхтоўчай работы—сканчэнне новага школьнага будаўніцтва, рамонт школьных памяшканняў і снабжэнне школ.

Трэба абавязкова дабіцца, каб кожны аб'ект школьнага будаўніцтва ў тэрмін бкў закончан. Для гэтай мэты раённая газета павінна праз свой рабселькораўскі актыў праверыць становішча будаўніцтва кожнай новай школы. Але ні ў якім разе нельга абмежавацца толькі адной такой праверкай.

Галоўная задача газеты ў тым, каб яна дабілася выпраўлення ўсіх недахопаў, выяўленых праверкай.

Спынімся на рабоце крычаўскай газеты **«Соцыялістычны шлях»** па падрыхтоўцы да новага навучальнага года.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 11 ліпеня адзначыў, што ў Крычаўскім раёне падрыхтоўка да новага навучальнага года знаходзіцца пад пагрозай. Раённая газета «Соцыялістычны шлях» у нумары за 15 ліпеня выступае з артыкулам (да рэчы, першым), у якім высвятляе становішча з падрыхтоўкай да новага навучальнага года. Газета піша, што ў Зарубецкім сельсовеце зрываецца будаўніцтва чатырохкамплектнай школы, 21 школа зусім не адрамантавана. Такое-ж становішча і ў Маляціцкім сельсовеце, дзе нацменаўская школа будуецца ўжо тры гады. Газета выкрыла факты і зрабіла адпаведныя вывады. Але гэтага яшчэ мала для таго, каб ліквідаваць прарыў з будаўніцтвам і рамонтам. Трэба ўважліва праверыць, як ліквідуюцца выяўленыя недахопы.

У тым-жа артыкуле газета «Соцыялістычны шлях» паказвае вопыт работы перадавых па падрыхтоўцы да новага навучальнага года сельсоветаў:

**«Перадавыя сельсоветы,—гаворыцца ў артыкуле, — Сакольніцкі, Касцюковіцкі, Папаніцкі, старшыні іх Талан, Генкін, Шаўцоў, якія па-большэвіцку ўключыліся ў конкурс і да 20 ліпеня закончаць рамонт. Чаму Талан і Генкін маюць такія поспехі? Таму, што яны арганізавалі старшынь калгасаў, прымацавалі да калгасаў школы, вызначылі тэрміны работ і ўстанавілі ўзаемны кантроль за работай, правяраюць выкананне дагавароў. Камісія Талана праверыла работу Генкіна і наадварот».**

Вельмі добра, што газета паказвае ўзорныя па падрыхтоўцы да новага навучальнага года сельсоветы. Але газеце трэба вывучыць больш шырока і канкрэтна вопыт работы гэтых сельсоветаў і перанесці яго ў іншыя сельсоветы раёна. Зрабіць гэта могуць дапамагчы газеце селькоры або настаўнікі данай школы. Урэшце, можна даручыць самому старшыні сельсовета, хоць-бы таму-ж Талану, расказаць на старонках газеты, як ён дабіваўся і дабіўся перамогі. У калгасах, якія ўжо адрамантавалі свае падшэфныя школы, безумоўна, ёсць энтузіясты-ўдарнікі, якія сваім прыкладам уцягнулі калгасную масу для дапамогі школе. Газеце трэба паказаць гэтых ударнікаў і выставіць іх кандыдатамі для прэміравання ў конкурсе на лепшую падрыхтоўку да новага навучальнага года.

Сур'ёзную ўвагу раённы друк павінен аддаць пытанням будаўніцтва і рамонту нацменаўскіх школ. На гэтым участку

яшчэ ёсць шмат буйных недахопаў.

Крычаўская газета «Соцыялістычны шлях» паведамляе, што «ў Маляціцкім сельсовеце ў вёсцы Антонаўка нацыянальная школа будуецца тры гады, але так і не скончана. Вучняў няма дзе размясціць». З гэтага факта газета не робіць ніякіх палітычных вывадаў. А падобныя факты, меўшыя месца ў Крычаве, ёсць грубейшае ігнараванне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Раённыя газеты абавязаны з асаблівай увагай праверыць падрыхтоўку да новага навучальнага года ў нацменаўскіх школах, моцна ўдарыць па ўсіх тых, хто ігнаруе інтарэсы нацыянальных меншасцей, і з большэвіцкай настойлівасцю і напорыстасцю змагацца за ўзорную падрыхтоўку да заняткаў у кожнай нацменаўскай школе раёна.

У перыяд падрыхтоўкі да навучальнага года трэба пад асобы кантроль узяць **комплектаванне нацменаўскіх школ настаўнікамі.** Гэта-ж факт, што ў мінулым навучальным годзе ў Дзяржынскім, Бягомльскім і некаторых іншых раёнах груба скажалася нацыянальная палітыка партыі ў камплектаванні школ. У польскія школы аддзелы нарасветы прызначалі настаўнікаў, якія не ведаюць польскай мовы і выкладанне ў гэтых школах ішло на беларускай або рускай мове. Такія-ж выпадкі былі з яўрэйскімі і іншымі нацменаўскімі школамі. Раённы друк абавязан пільна сачыць за тым, каб не дапусціць сёлета леташніх «выпадкаў» з нацменаўскімі школамі.

Неабходна шырока праверыць пры дапамозе селькораў, як школы забяспечаны падручнікамі, вучэбнымі і пісьмовымі прыладамі, палітэхнічным абсталяваннем. Не менш важная справа, за якую павінны зараз-жа ўзяцца раённыя газеты, гэта барацьба за стварэнне харчовых фондаў для арганізацыі гарачых снеданняў у школах.

Пасля выканання сваіх абавязацельстваў па здачы сельска-гаспадарчых прадуктаў дзяржаве, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі не толькі поўнасцю забяспечаць сябе рознымі прадуктамі, але здолеюць са сваіх уласных рэсурсаў выдзеліць дастатковую колькасць прадуктаў для стварэння харчовых фондаў пры кожнай школе. Трэба толькі раённаму друку своечасова і добра паставіць растлумачальную работу і нашы школьнікі будуць забяспечаны на ўвесь год смачнымі і спажыўнымі гарачымі снеданнямі.

Партыя і ўрад увесь час па-ленінску клапоцяцца аб настаўніках. Заработная плата і матэрыяльнае забеспячэнне совецкага настаўніка з года ў год павышаюцца. Раённы друк абавязан узяць пад свой неаслабны кантроль ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўрада ў гэтай галіне.

У заключэнне неабходна спыніцца яшчэ на адным важным палітычным пытанні—гэта на ўкамплектаванні школ вучнямі. Беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы ў свой час шмат папрацавалі ў гэтай галіне. Партыя разграміла беларускіх нацдэмаў і выкрыла перад шырокімі працоўнымі масамі сутнасць іх контррэволюцыйнай работы. У мінулым навучальным годзе партыя шмат прарабіла для ліквідацыі спадчыны нацдэмаўшчыны. Пашырана сетка рускіх школ, створаны новыя праграмы і стабільныя падручнікі, нанесен знішчальны ўдар ахвосцю нацыяналістычных элементаў, якія летась сям-там імкнуліся праводзіць механічнае камплектаванне школ. Але ўсё гэта не значыць, што ў органах народнай асветы і ў паасобных школах не астаўся замаскаваны класавы вораг, які і сёлета будзе імкнуцца праводзіць сваю шкодніцкую работу. У першую чаргу класавы вораг папрабуе ў сваіх контррэволюцыйных мэтах скарыстаць справу камплектавання школ дзецьмі.

Раённы друк павінен яшчэ больш павысіць сваю класавую пільнасць, бо астаткі нацдэмаўскіх і розных нацыяналістычных элементаў сям-там імкнуцца прадаўжаць сваю шкодніцкую дзейнасць.

Трэба своечасова выкрываць малейшыя спробы нацыяналістычных элементаў праводзіць камплектаванне школ па прынцыпу нацыянальнасці, а не па прынцыпу роднай мовы і не па жаданню бацькоў вучня. Пры камплектаванні школ павінен праводзіцца самым рашучым чынам прынцып добраахвотнасці.

Раённы друк павінен памятаць, што баявая сустрэча новага навучальнага года ў значнай ступені залежыць ад таго, як наш друк будзе змагацца за вырашэнне задач падрыхтоўчай работы.

*Л. Глезер, С. Рубежын*

# Рыхтавацца да зімы

Ужо зараз трэба распачаць падрыхтоўку да зімы. Вопыт мінулых гадоў гаворыць аб тым, што там, дзе зіму сустракалі не падрыхтаванымі, дзе позна пачыналі рыхтавацца да яе, там не была забяспечана нармальная работа прадпрыемстваў. Гэтыя прадпрыемствы не былі забяспечаны неабходным апалам. Захоўваўся апал дрэнна, псаваўся, цэхі былі не ацеплены.

Там, дзе не былі адрамантаваны інтэрнаты, не створаны ўмовы для нармальнага жыцця рабочых у зімовы перыяд, там быў і адсеў рабочых. Возьмем хоць-бы шклозавод імя Сталіна (Гомель), які страціў значную частку сваіх рабочых, або добрушскую папяровую фабрыку, дзе не былі падрыхтаваны пад'язныя шляхі, дзе паражняк замарожваўся на пуцях. Усё гэта вынік дрэннай падрыхтоўкі да зімы.

Ці варта даказваць, што зараз, **толькі** зараз трэба пачаць падрыхтоўку да зімы, бо малейшае ўпушчэнне ў гэтай справе выклікае велізарныя страты ў нашай народнай гаспадарцы.

Падрыхтаваць тут трэба ўсе ўчасткі, не пагарджаючы самымі дробнымі пытаннямі, бо часта дробязі перарастаюць зімой у вялікія перашкоды для нармальнай работы прадпрыемстваў.

Вялікую ролю ў падрыхтоўцы да зімы павінен адыграць наш друк. Гэта датычыць і раённых, і фабрычна-заводскіх газет. Вазьміце пытанне падрыхтаванасці рабочых кватэр і інтэрнатаў. Партыя аддае вялікую ўвагу жыллёваму будаўніцтву і рамонту рабочых кватэр. Але трэба проста сказаць, што мы яшчэ мала цікавімся тым, у якой кватэры жыве рабочы, як гэта кватэра падрыхтавана да зімы: ці не працякае дах, ці не пабіты шыбы, ці не дыміць печ, ці спраўны вадаправод, прыбіральня, асвятленне, ці падрыхтаваны сараі для дроў, склепы для хавання гародніны.

Раскрыйце папкі вашых фабзаўмясцкомаў, райпрофсоветаў. Колькі вы там знойдзеце зус'м правільных скаргаў, патрабаванняў, заяў рабочых. Не ўсюды падышлі сур'ёзна да гэтай справы. На радзе прадпрыемстваў не ведаюць, колькі рабочых маюць патрэбу ў рамонце сваіх кватэр. Мы часта сустракаемся з бяздушнымі, казённа-бюракратычнымі адносінамі да патрабаванняў рабочых.

Жакты рамантуюць кватэры. Пацікаўцеся, чые кватэры яны рамантуюць у першую чаргу. І тут вы сустрэнеце становішча, калі класавая лінія не заўсёды вытрымана, вы сустрэнеце такія агідныя выпадкі, калі ўдарнікі, радавыя рабочыя не могуць дабіцца самага невялікага рамонту сваіх кватэр.

А гэта-ж у канчатковым выніку пытанне барацьбы за выкананне 6 указанняў тав. Сталіна.

Тут нельга абмяжоўвацца толькі разважаннямі. Тут павінна быць праяўлена сапраўдная дзелавітасць, чуласць да запатрабаванняў кожнага рабочага ў паасобку.

Праверце, дзе жывуць вашы рабочыя, устанавіце, які рамонт кватэры ім патрэбен, вылучце асобна кватэры лепшых ударнікаў і вазьміце пад свой кантроль іх рамонт.

Газеты павінны звязацца з жактамі, паглядзець, чые кватэры там рамантуюцца ў першую чаргу, і прасачыць за тэрмінам і якасцю рамонту.

Трэба правесці **рэйд ударнікаў друку па выяўленню ўнутраных рэсурсаў.** Гэта-ж не сакрэт, што калі рабочыя завода імя Варашылава агледзелі свой заводскі двор, яны знайшлі вялікую колькасць добрага лесаматэрыяла, а ў гэты-ж час старшыня заўкома скардзіўся на недахват дошак.

Вялікую ролю павінны адыграць у гэтай справе рабочыя-будаўнікі. Звяжыцеся з будаўнічымі арганізацыямі і яны пойдуць вам насустрач.

Асабліва трэба звярнуць увагу на **якасць рамонту.** Рамонт кватэры нельга лічыць скончаным, пакуль жыхары не падпішуць акт аб прыёмцы работы.

Вазьміце пытанне з абуткам і вопраткай. У нас яшчэ вельмі дрэнна працуюць пачыначныя швэйныя і абутковыя майстэрні. Быў выпадак, калі рабочыя пры-

вёс у сваю майстэрню на завод імя Варашылава пару добрых бацінак, якім неабходзён быў невялікі рамонт. У майстэрні да шаўровага верху яму прышылі насок з свіной скуры. Такія выпадкі не адзіныя. Высокая цана і нізкая якасць—сістэма работы майстэрань

Перад намі стаіць задача да зімы адрамантаваць абутак, галошы, верхнюю вопратку рабочым, іх жонкам і дзецям. Адрамантаваць добракасна, хутка і не дорага.

Для гэтага ў нас ёсць усе магчымасці. Прыцягніце сампромкааперацыю і яна пойдзе насустрач. Трэба арганізаваць узаемадапамогу швейных фабрык абутковым і наадварот.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на забеспячэнне школьнікаў. Трэба выявіць і выкрыць людзей, заражаных нэпманскім душком і лічачых невыгодным вырабляць і гандляваць дзіцячымі таварамі.

Апошняе пытанне — падрыхтоўка да зімы прадпрыемстваў, забяспечэнне іх і рабочых апалам.

Трэба праверыць, наколькі ацеплены цэхі, падрыхтаваны склады, пад'язныя шляхі, транспарт, складскія памяшканні для сталовай. Становішча з забеспячэннем прамысловых цэнтраў дровамі пакуль яшчэ напружанае. Дрэнна перавозяцца дровы Днепрадзвінскім рэчным флотам. Ён выканаў поўгадавы план перавозак толькі на 50 проц. Асноўная маса апалу знаходзіцца яшчэ на далёкіх прыстанях.

Рабкоры і газеты воднага транспарта павінны практычна ўзяцца за хутчэйшы вываз апалу. Не чакаць, пакуль пачнуць замярзаць рэкі. Асаблівую ўвагу — рабоце пагрузачна-разгрузачных пунктаў.

Адказнейшыя задачы стаяць перад газетамі сплаўных кантор. У сплаве наступаюць рашаючыя дні. Трэба ўзяцца за кругласутачную вязку лесу, выплаўку яго з малых рэк і сплаўляць да канчатковых пунктаў.

Адначасова з гэтым трэба заняцца беражным выкарыстаннем апалу. Мы маем занадта вялікі перапал. Умела арганізаваць хаванне апалу — задача ўсіх прадпрыемстваў, электрастанцый і т. д. Трэба зразумець, што ў канчатковым выніку апал — рашаючае звяно падрыхтоўкі да зімы.

Пытанняў шмат. Задача газет — не распыляцца, вывучыць становішча прадпрыемства і ход падрыхтоўкі да зімы. Неабходна намеціць практычны план арганізацыйных мерапрыемстваў і па-дзелавому ўзяцца за справу.

Трэба, каб газеты фабрык і заводаў арганізавалі дапамогу торфзаводам, якія снабжаюць іх торфам, і паслалі туды выязныя рэдакцыі, каб сваёй аператыўнай работай дапамагчы ў барацьбе за лепшую сушку і бесперапынную вывазку торфу. Для гэтага неабходна прыцягнуць спецыялістаў, якія-б вызначылі вільготнасць і дапамаглі-б у барацьбе за высокую якасць торфу.

Трэба ўцягнуць жонак рабочых у кампанію падрыхтоўкі да зімы. Няхай яны дапамогуць выявіць, што неабходна зрабіць і адрамантаваць.

Чаму-б газетам не сабраць качагараў і абгаварыць з імі, як лепш эканоміць апал і выкарыстаць фрэзерны торф, сабраць дворнікаў і высвятліць, як захоўваецца парадак на дварах, у калідорах і т. д.

Газеты на сваіх старонках павінны папулярызаваць лепшых ударнікаў падрыхтоўкі да зімы — краўцоў, шаўцоў, будаўнікоў, разгарнуць паміж імі спаборніцтва.

Мы не бярэм на сябе задачу даць газетам нейкія гатовыя, закончаныя формы масавай і арганізацыйнай работы. Трэба, каб газеты ў справе падрыхтоўкі да зімы праявілі максімум ініцыятывы, аператыўнасці.

**Дапамагчы соцыялістычным прадпрыемствам своечасова і поўнасцю падрыхтавацца да зімы — справа гонару нашага друку.**



# ДАЦЬ АПАЛ ПРАМЫСЛОВАСЦІ, ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ДРОВАМІ ПРОЛЕТАРСКІЯ ЦЭНТРЫ

ЦО КП(б)Б **«Звязда»** праводзіць з 1-га па 20-е жніўня рэйд-праверку вабеспячэння прамысловасці і пролетарскіх цэнтраў апалам на зіму.

Задача рэйда заключаецца ў тым, каб прыкаваць увагу пізавога друку, рабкораў, кіраўнікоў прамысловасці, рабочых да пытанняў беражнага выдаткавання ўсіх відаў апалу (вугаль, дровы, торф, электраэнергія), да своечасовага і поўнага забеспячэння прамысловасці і пролетарскіх цэнтраў апалам.

У рэйд павінны ўключыцца ўсе раённыя, транспартныя, фабрычна-заводскія газеты. Трэба ўцягнуць у работу па рэйду ўвесь пізавы фабрычна-заводскі друк, усіх рабкораў прадпрыемстваў, чыгуначнага і воднага транспарта, рабочых-ударнікаў, жонак рабочых.

На што трэба звярнуць асноўную ўвагу?

**Рабкорам - воднікам і газеце «Беларускі фарватэр».**

Галоўную ўвагу накіраваць на выкананне плана баржеперавозак, на вывазку дроў з далёкіх прыстаней. Пад асобы кантроль неабходна ўзяць завоз дроў для гарадоў: Гомель, Віцебск, Магілеў, Барысаў, Бабруйск, Рэчыца. Паставіць перад рабочымі задачу: да пачатку масавай перавозкі новага ўраджаю закончыць перавозку дроў для гарадоў і прамысловасці.

На пунктах нагрузкі і выгрузкі ўстанавіць **кантрольныя пасты,** якія павінны штодзенна сачыць і прымаць усе меры, каб флот быў своечасова разгружан і нагружан. Памятайце, што беспераабойная работа флота, прадукцыйнасць працы цягавай сілы вырашае выкананне плана і своечасовы завоз апалу для гарадоў.

На прыстанях дровы знаходзяцца без усякай аховы. Прынята лічыць, што ўзяць некалькі пален дроў—«не грэх». У выніку на вачах возчыкаў кожны год расцягваюцца сотні тысяч раўметраў дроў. На гэты ўчастак, на барацьбу з раскрадваннем дроў на прыстанях павінны быць кінуты лепшыя сілы воднікаў-рабкораў.

**Рабкорам і шматтыражкам сплаву.**

Наступілі рашаючыя дні сплаву. Між тым асноўная маса дроў, прызначаная для гарадоў, знаходзіцца яшчэ на прыстанях, далёка ад прамысловых цэнтраў. На сплаўных прыстанях гомельскай, віцебскай і мазырскай сплаўкантор знаходзіцца больш сотні тысяч раўметраў дроў, прычым гэтыя дровы яшчэ не звязаны. Нарастае пагроза, што дровы астануцца зімаваць на прыстанях.

Пад асобы кантроль газеты і рабкоры павінны ўзяць **выплаўку дроў з малых рэк** (асабліва пагражаючае становішча з выплаўкай на Верхня-Сожскім участку).

Лозунг для сплаўшчыкаў — кругласутачная звязка, дзень і ноч без страт гнаць дровы да канчатковых пунктаў.

На прыстанях Чачэрска, Прапойска, Кармы, Лоева ляжаць дровы яшчэ леташніх загатовак. Вывезці гэтыя дровы да наступлення замаразкаў—задача дня.

**Рабкорам і шматтыражкам прамысловасці.**

Пад асобы нагляд трэба ўзяць забеспячэнне прадпрыемстваў на зіму апалам, максімальнае выкарыстоўванне торфу замест дроў, пастаноўку ўліку расходвання дроў, хаванне апалу на складах (выявіць канкрэтных віноўнікаў і прычыны, параджаючыя перапалы і разбазарванне апалу).

Трэба правесці рэйд-праверку, **як праходзіць забеспячэнне дровамі рабочых, якую дапамогу аказваюць прафсаюзы ў дастаўцы дроў рабочым.** Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на пастаноўку **пашпартызацыі топак** (выявіць факты злачынстваў з боку пайшчыкаў у атрыманні дроў).

Трэба ўключыцца ў актыўную дапамогу торфазаводам, забяспечваючым прадпрыемствы торфам. Рашае сушка

і вывазка торфу. На гэты ўчастак трэба кінуць брыгады рабкораў, прыняць усе неабходныя меры, каб зімовы запас торфу, прызначаны для прадпрыемстваў, быў вывезен да асенніх разліваў.

Штогод нашы парасілавыя электрастанцыі перавыдаткоўваюць сотні тысяч тон рознага апалу. Даволі напомніць, што добрушскай парасілавой станцыяй з пачатку гэтага года перапалена больш 10 тысяч тон торфу. Для нармальнай работы фабрыкі прыйшлося прывозіць торф за тысячы кілометраў.

Нізавы друк электрастанцый павінен арганізаваць праверку **становішча топак** (выкананне планаў папераджальнага рамонту катлавой гаспадаркі, ачыстка катлоў, ад попелу), прыцягнуць для гэтай мэты спецыялістаў станцыі.

Рэкамендуем правесці нараду качагараў па пытанню аб эканоміі апалу.

Вынікі рэйда неабходна шырока асвятліць на старонках газет, абгаварыць на сходах рабочых, у партыйных, савецкіх, прафсаюзных арганізацыях, каб дабіцца поўнай ліквідацыі выяўленых рэйдавымі брыгадамі недахопаў, поўнасцю забяспечыць соцыялістычныя прадпрыемствы, рабочых, пролетарскія цэнтры апалам.

## З АПОШНЯЙ ПОШТЫ

# „Не дапусцім малейшых страт“

Газета палітаддзела Магілеўскай МТС **«Сцяг Леніна»** выдала ўжо шосты нумар апаратыўнай друкаванай «лістоўкі—газеты». На гэты раз лістоўка цалкам прысвечана барацьбе са стратамі ўраджаю. Аб гэтым у лістоўцы друкуецца і пастанова палітаддзела МТС.

Вось невялічкі, літаральна ў 40 радкоў, перадавы артыкул, які па-апаратыўнаму мабілізуе калгаснікаў на чыстае жніво, на збор і падграбанне каласоў.

**«У радзе калгасаў не вядзецца барацьба са стратамі ўраджаю (калгас «XII-годдзе Кастрычніка», Бракаўскага сельсовета, калгас імя Леніна, Княжыцкага сельсовета), не арганізавана падграбанне і падбор каласоў, не мабілізавана калгасная дзетвара на барацьбу са стратамі—на збіранне каласоў».**

Лістоўка падае імёны і прозвішчы тых, хто зніжае вагу працадня, хто не змагаецца са стратамі. Калгас імя Варашылава, Пашкаўскага сельсовета, павінен быў сабраць і звезці ў гумны ўраджай з 50 га зернавых. Але калгас зацягнуў уборку. Зжат і састаўлен у бабкі ўраджай толькі з 35 га, звезена ў гумны ўсяго 7 вазоў. Лістоўка накіроўвае сваю ўвагу на якасць работы ў гэтым калгасе.

**«Якасць работы на ўборцы нецярпіма дрэнная. Каля 15 проц. зерня застаецца на полі. Жняяркі жнуць не чыста. Пасля жніва жняяркамі дзе-ні-дзе і абы як зроблена падграбанне каласоў.**

**Ад дрэннай якасці трацяцца кілограмы, цэнтнеры збожжа на полі і гэтым самым зніжаецца кошт працадня калгасніка».**

ЛІСТОЎКА ГАЗЕТЫ „СЦЯГ ЛЕНІНА“

...А-БАЯВОМУ ПРАВЯДЗЕМ УБОРАЧНУ...

Аб барацьбе са стратамі

Селькоры, рэдкалегіі насценгазет!

Першая старонка лістоўкі газеты «Сцяг Леніна» (палітаддзел Магілеўскай МТС).

Газета заклікае селькораў і рэдкалегіі нізавых, брыгадных насценгазет

больш бічаваць бракаробаў, упарта змагацца са стратамі пры ўборцы.

**«Паказвайце вопыт работы лепшых дзяцей ударнікаў па збору каласоў: Расстаўце на полі селькораўскія пасты па барацьбе са стратамі!»**

На другой старонцы лістоўка дае слова аграному МТС тав. **Врублеўскаму,** які простымі падлікамі даказаў, што **«калі нават лічыць у сярэднім страту 10 каласоў на квадратны метр, то на адным гектары траціцца 20 кілограм ураджаю. Гэта значыць, што калі добра падгрэбсці і сабраць каласы ў часе ўборкі, дык атрымаем сотні пудоў хлеба і гэтым самым павысім кошт працадня калгасніка».**

Ганаровае месца адводзіць лістоўка калгаснаму інспектару па якасці. Газета яшчэ раз напамінае, што кожны гектар убранага ўраджаю, кожны від работы павінен быць прынят інспектарам па якасці.

**«Пільна сачыце за ўсімі працэсамі ўборкі. З гонарам насіце павязкі—нарукаўнік інспектара па якасці!»—**

вось баявы заклік палітаддзельскай газеты да калгасных інспектароў.

У лістоўцы выступаюць самі калгаснікі—непасрэдныя барацьбіты са стратамі ўраджаю. Тав. **Дымкоў** з калгаса імя Будзённага, Бракаўскага сельсовета, сігналізуе, што калгас на адным гектары траціць пры ўборцы каля цэнтнера хлеба, а тав. **Купрэйчык** паведамляе аб тым, што **«Пад дажджом мокне не вязаны ячмень».**

Яшчэ адно пісьмо калгасніка **Апякіна.** Ён не можа мірыцца са стратамі ўраджаю пры звозцы снапоў у гумны, бо снапы «дрэнна кладуць на вазы і не падсцілаюць падсцілак у драбіны». А адсюль вынік—па дарозе губляюцца сотні каласоў, асыпаецца зярно.

Так з удзелам лепшых калгаснікаў ударнікаў магілеўская палітаддзельская газета ўключылася ў актыўную барацьбу са стратамі ўраджаю.

# „УСЕ НА БАРАЦЬБУ З КЛЯШЧОМ!“

Пухавіцкая раённая газета **«За калгасы»** правяла значную работу па арганізацыі чырвоных абозаў з хлебам у гонар юбілея «Звязды».

21 ліпеня калгаснікі Пухавіцкага раёна прывезлі для здачы дзяржаве 30 тон хлеба. Калі зярно пачалі ссыпаць у склады, выявілася, што ў асобных мяшках захаваўся шкоднік—клешч.

Раённая газета ўзняла трывогу. У аператыўным парадку **выязная рэдакцыя «Звязды»** і пухавіцкая раённая газета **«За калгасы»** выпускае тэлеграму ў ліку 2.000 экз. і накіроўвае ў калгасы раёна.

Бюро Пухавіцкага РК КП(б)Б і палітаддзел МТС у спецыяльнай пастанове аб барацьбе з кляшчом прапануюць усім старшыням сельсоветаў, калгасаў, дырэктарам соўгасаў і сялянам—аднаасобнікам у двухдзенны тэрмін праверыць і прадэзінфектаваць усе склады, свірны, тару для ссыпкі новага ўраджаю.

У барацьбу з кляшчом уключыліся піонеры. Дзесяткі лістовак-тэлеграм разнеслі яны ў калгасы раёна, паведамляючы:

**АБВЯШЧАЕМ ПАХОД НА КЛЯШЧА!**

**Ячэйкі Асоавіяхіма, комсамольцы, партыйцы, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі! Усе на барацьбу з кляшчом!**

**Адвозіць збожжа дзяржаве ў чыстых мяшках».**

Так па ініцыятыве выязной рэдакцыі «Звязды» і пухавіцкай раённай газеты «За калгасы» пачаўся паход на шкодніка зярна — кляшча.


№ 1

29

ТЭЛЕГРАМА

АБВЯШЧАЕМ ПАХОД НА КЛЯШЧА

Ячэйкі Асоавіяхіма, комсамольцы, партыйцы, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі, усе на барацьбу з кляшчом!

Адвозіць збожжа дзяржаве у чыстых мяшках

Яшчэ раз перагледзець і прадэзінфіцыраваць склады, свірны, тару і малатарні

Тэлеграма, выданая выязной рэдакцыяй «Звязды» і Пухавіцкай раённай газетай.




ДЗЕНЬ СЕЛЬКОРА Ў КАЛГАСЕ ІМЯ ЛАНЦУЦКАГА. На здымках: 1. Піліпчык Іван — актыўны селькор палітаддзельскай газеты «За большэвіцкі калгас»; уверсе справа — лістоўка выданая палітаддзельскай газетай аб значэнні «Дня селькора»; 2. Выступленне тав. Ланцуцкага на мітынгу ўдзельнікаў «Дня селькора»; 3. Група актыўных селькораў і рэдактароў брыгадных насценгазет перадавых калгасаў Капыльшчыны.

*А. Шэўчанка*

рэдактар газеты «За большэвіцкі калгас» палітаддзела Капыльскай МТС

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ
## У КАЛГАСЕ ІМЯ ЛАНЦУЦКАГА

Зараз у раёне дзейнасці **Капыльскай** МТС няма ніводнага калгаса без сваёй насценнай газеты. 175 калгасных брыгад (а ўсіх брыгад 201) наладзілі выпуск брыгадных газет.

Гэтыя поспехі ў развіцці брыгаднага друку дасягнуты палітаддзелам МТС і яго газетай **«За большэвіцкі калгас»** дзякуючы ўмацаванню кіраўніцтва рабселькорамі і рэдкалегіямі насценгазет. У практыку нашай работы з рабселькорамі моцна ўкаранілася сістэматычнае правядзенне нарад рэдкалегій насценгазет, курсаў рэдактароў, нарад рабселькораў па сельсоветах і калгасах.

Можна падаць дзесяткі прыкладаў баявой работы брыгадных насценгазет у часе веснавой сяўбы, праполкі, сенаўборкі і падрыхтоўкі да ўборачнай.

Газета брыгады № 2 калгаса **«Ясны паранак»**, якая выходзіць на польскай мове, прэміравана палітаддзелам за настойлівую і паспяховую барацьбу за тэмпы і якасць сяўбы, за ўдарную работу па падрыхтоўцы да ўборачнай кампаніі.

Брыгадныя насценгазеты калгаса імя **Красіна** за час сяўбы 8 раз праверылі выкананне соцдагавора, заключанага з калгасам «Ільіч». У праверцы прынялі

ўдзел звыш 50 лепшых калгаснікаў-ударнікаў. Зараз ва ўсіх шасці брыгадах калгаса імя Красіна наладжан рэгулярны выпуск насценгазет. Выдаецца таксама агульна-калгасная насценгазета. З першых-жа дзён уборкі рэдкалегіі брыгадных насценгазет наладзілі **гучныя чыткі газет ва ўсіх брыгадах калгаса.** Чытчыкамі газет з'яўляюцца лепшыя, найбольш граматныя селькоры.

Рост брыгаднага друку ў нашых калгасах абумоўліваецца ростам рабселькораўскай арміі. Гэта армія адважных барацьбітоў за моцныя бальшэвіцкія калгасы расце не толькі колькасна, але і якасна. Задача-ж палітаддзела і яго газеты — ні на мінуту не забываць пра рабселькораў, штодня клапаціцца аб іх, кіраваць імі, выхоўваць іх.




«Чырвоныя весткі», «Сігнальныя лісткі» і «Трывогі — адна з форм масавай работы Копыльскай палітаддзельскай газеты.

Даволі ўдалым новым мерапрыемствам палітаддзела ў кіраўніцтве селькорамі з'яўляецца **«Дзень селькора»**, праведзены напярэдадні ўборкі — 15 ліпеня. Мэта гэтага своеасаблівага палітдня заключалася ў тым, каб падрабязна растлумачыць усім селькорам нашых калгасаў рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і мабілізаваць селькораў на ўдарнае ажыццяўленне гэтых рашэнняў. Месцам правядзення «Дня селькора» быў польскі нацыянальны калгас імя **Ланцуцкага.**

З самой раніцы ў калгас імя Ланцуцкага пачалі прыбываць на злёт селькоры, рэдактары насценгазет, члены рэдкалегій. К поўдню разам з калгаснікамі бліжэйшых калгасаў сабралася каля двух тысяч чалавек.

# СТОЙ!

**Што ты зрабіў для таго, каб выканаць БАЯВЫ НАКАЗ ПАЛІТАДДЗЕЛА:—**

**ПАМЯТАЙ,** што вытворчая НАРАДА брыгадзіраў і інспектароў па якасці абавязалася:

— Уборку ўсіх зерневых правесці на працягу 14-15 дзён.

— Першы масавы абоз з хлебам па здачы дзяржаве і натураплаты МТС арганізаваць на восьмы дзень пасля пачатка ўборкі і да 15 верасня закончыць здачу яравых зерневых культур.

— Да 1 кастрычніка поўнасцю разлічыцца з дзяржавай і па натураплаце МТС у ўсіх зерневых культурах.

**За выкананне гэтых самаабавязацельств ТЫ ПАВІНЕН ЗМАГАЦЦА ПА-БОЛЬШЭВІЦКУ!**

Лістоўка, выданая Копыльскай палітаддзельскай газетай да «Дня селькора».

Месца, дзе праводзіліся работы злёта, загадзя абсталявана і ўпрыгожана. На ўсіх дамах калгаснікаў расклеены лозунгі, мабілізуючыя селькораў на ўзорную барацьбу на фронце ўборкі і хлебапаставак. Тут-жа была наладжана выстаўка насценгазет. Выстаўку мы арганізавалі па-новаму. Раней выстаўкі насценгазет мы рабілі так: на фанерны ліст у беспарадку наклейвалі насцен газеты і ўсё. На гэты раз мы абсталявалі такую выстаўку, якая была наочным дапаможнікам селькору, **якая вучыла, як трэба і як не трэба выпускаць насценгазету.**

На асобным шчыце былі наклеены лепшыя ўзорныя насценгазеты. Унізе шчыта былі даны падрабязныя тлумачэнні, што добрае ў гэтых насценгазетах, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу, што неабходна выкарыстаць кожнаму рэдактару і селькору.

На другім шчыце мы паказалі дрэнныя насценгазеты і да іх таксама далі падрабязныя тлумачэнні.

Лепшыя брыгадныя насценгазеты калгасаў «На варце», імя Красіна, «Ільіч» і «Чырвонаармеец» карысталіся асаблівай увагай селькораў. Селько-

ры вельмі ўважліва разглядалі нумары гэтых насценгазет, прыглядаліся да іх афармлення, зместу, граматнасці матэрыялаў. Ля выстаўкі ўвесь час ішла жывая гутарка. Селькоры абменьваліся заўвагамі пра выстаўленыя насценгазеты. Безумоўна гэта наша выстаўка насценгазет адыграла вялікую ролю ў вучобе і выхаванні калгаснага рэдактара.

Разглядам і вывучэннем выстаўкі селькоры былі заняты ўсю раніцу. Роўна ў 12 гадзін пачалася прапрацоўка пастаноў пленума ЦК ВКП(б). Удзельнікі злёта былі разбіты на некалькі груп, каб лепш можна было правесці заняткі. Распрацоўка праходзіла жыва, з актыўным удзелам кожнага прысутнага. Спачатку чыталі пастановы пленума, а потым абмяркоўвалі, як павінны калгасныя насценгазеты змагацца за іх выкананне.

Прапрацоўка рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) заняла 4 гадзіны, аднак, дзякуючы правільнаму, жывому метаду прапрацоўкі, селькоры не стаміліся.

У 4 гадзіны была праведзена падагульняючая канферэнцыя ўсіх удзельнікаў злёта. На канферэнцыі селькоры прынялі на сябе наступныя самаабавязацельствы:

— Наладзіць рэгулярны выхад брыгадных насценгазет у кожным калгасе.

— У кожнай калгаснай брыгадзе арганізаваць селькораўскія пасты на час уборкі і хлебапаставак.

— Змагацца за быстрэйшае правядзенне ўборкі ўсіх зернавых без усякіх страт. Ніводнага адстаючага калгаса ў зоне МТС!

— Забяспечыць, каб палітаддзельскую газету «За бальшавіцкі калгас» выпісаў кожны калгасны двор.

— Кожнай рэдкалегіі насценгазеты і селькору выпісваць і чытаць журналы «Бальшавіцкі друк», «Рабкресткор».

— У часе абедзенага перапынку па брыгадах праводзіць чытку газет і мастацкай літаратуры.

— На ўсіх буйных МТФ і СТФ арганізаваць спецыяльныя насценгазеты.

У канцы дня канферэнцыю наведалі прыехаўшыя ў раён т. **ЛАНЦУЦКІ**, кірэўнік шуцбундаўскага атрада, удзельнік венскіх барыкад т. **ФІШЭР** з жонкай і прадстаўнік германскай кампартыі т. **ШУЛЬЦ**. Селькоры сустрэлі дарагіх гасцей з вялікай радасцю. Таварышы Ланцуцкі, Фішэр і Шульц расказвалі аб тых жудасных здзеках, якія пануюць у фашысцкай Польшчы, Аўстрыі і Германіі. Да 9 гадзін вечара цягнуўся мітынг. Велізарны натоўп вакол трыбуны лавіў кожнае слова выступаўшых. Удзельнікі «Дня селькора» абавязаліся ўзмацніць інтэрнацыянальную мопраўскую работу, дабіцца ў кожным калгасе арганізацыі ячэйкі МОПР.

Пасля ад'езду гасцей пачалася спецыяльна падрыхтаваная мастацкая частка. Была дана пастаноўка, выступіў харавы гурток, увесь час гралі струнны і духавы аркестры і два баяны.

Так правялі мы наш першы «Дзень селькора». Спроба аказалася вельмі ўдалай. У далейшым такія дні селькора палітаддзел будзе праводзіць сістэматычна.

---

**УБОРКУ ўсіх зернавых ПРАВЯДЗЁМ НА ПРАЦЯГУ 14-15 ДЗЁН**

**СЕЛЬКОРЫ у часе УБОРКІ павінны быць на ПЕРАДАВЫХ ПАСТАХ**

**СЕЛЬКОР ПАВІНЕН БЫЦЬ У ПЕРШЫХ РАДАХ БАРАЦЬБІТОЎ ЗА СВАЕЧАСОВУЮ І ДОБРАЯКАСНУЮ УБОРКУ І ЗБОЖАЗДАЧУ ДЗЯРЖАВЕ.**

Лозунгі выданыя Копыльскай палітаддзельскай газетай да «дня селькора».

*Р. Сімховіч*

# Узброім газету карыкатурай




Цэхавыя і брыгадныя насценгазеты Менскага машына-будаўнічага завода імя Варашылава. Пачэснае месца ў гэтых насценгазетах заняла карыкатура

Многія рэдактары фабрычна-заводскіх і транспартных насценгазет не клапоцяцца аб яркім загалоўку, аб рысунках і карыкатурах у газеце. І тут спасылаюцца на адзін і той-жа аргумент:

«У нас няма ні мастакоў, ні карыкатурыстаў, няма каму рысаваць, а члены рэдкалегіі не ўмеюць...».

І часта афармленне насценгазет нікуды не варта. Нават прачытаць цяжка. Усё зліваецца ў адну шэрую пляму. Няма маляўнічых загалоўкаў, карыкатур, яркіх рысункаў.

Тут нельга спасылацца на тое, што члены рэдкалегіі не ўмеюць рысаваць. На нашых фабрыках і заводах, на транспарце ёсць сотні людзей, якія з поспехам могуць аказаць істотную дапамогу ў афармленні газеты. Трэба толькі прыцягнуць гэтых людзей да работы рэдкалегіі, арганізаваць іх вакол газеты.

**Удалая карыкатура, яркі рысунак у газеце—дзейсная зброя, якая б'е ў цэль без промаху.** Добрае афармленне газеты прыкоўвае ўвагу чытача да матэрыялаў нумара.

Прывядзем характэрныя факты з работы насценных газет машына-будаўнічага завода імя Варашылава (Менск).

У цэху па выпуску прадметаў шырокага спажывання выходзіць насценгазета **«ГУДОК»** (рэдактар тав. **БРАЎДЭ**). Яе добра ведаюць на заводзе, як адну з лепшых насценгазет. Яна выходзіць праз дзень. Карыкатура ў газеце заняла пастаяннае месца.

Рабочыя цэха **Аўсеевіч і Іткін** у часе работы пачалі гуляць у шахматы. «Гудок» змяшчае вострую карыкатуру пад

назвай «Шахматная гарачка». Карыкатура моцна ўздзейнічала на Іткіна і Аўсеевіча. Яны зразумелі і выправілі сваю памылку.

Члены рэдкалегіі тт. **Браўдэ** і **Крыгель** арганізавалі выданне спецыяльнага бюлетэня пад назвай **«Б'ем па шляпах»**. Гэты бюлетэнь складаецца выключна з карыкатур.

6 чэрвеня была сарвана тэхвучоба па віне тэхпропа Казлова. На гэту тэму змяшчаецца ў бюлетэні карыкатура «Тэхпроп Казлоў тварам да вучобы». Больш гаварыць не прышлося. Казлоў склаў падрабязны вучэбны план і зараз наладзіў вучобу.

Работніца Дробава ўвесь час не выконвала вытворчых заданняў. Яна выпускала толькі 10 ключоў за змену. Іншыя-ж работніцы выпускалі па 60.

**Пасля вострай і трапнай карыкатуры па адрасу Дробавай яна пачала сістэматычна выконваць вытворчае заданне.**

Нядрэнна змагаецца газета праз свае карыкатуры за якасць прадукцыі.

Прыёмшчык **Чэрчэс** акуратна падшывае нарады на замкі, але зусім не правярае іх якасць. Бракаваныя замкі праходзяць разам з добрымі. Газета змяшчае карыкатуру «Добрадушны чалавек».

Зусім інакш пасля гэтага пачаў працаваць Чэрчэс. Якасць кожнага замка строга кантралюецца.

**Адкуль-жа бярэ рысункі рэдкалегія «Гудка», калі ні рэдактар, ні члены рэдкалегіі самі не ўмеюць рысаваць карыкатур?**

Рэдактар і члены рэдкалегіі прыцягнулі да работы іншых рабочых і работнікаў завода, якія і робяць для газеты карыкатуры і рысункі.

Знайсці, згрупаваць вакол газеты актыў—вось у чым пытанне, якое пры належнай энергіі і ініцыятыўнасці можна і трэба быстрэй вырашыць.

***

Нядрэнна выкарыстоўваюцца малюнкі і карыкатуры і ў газеце **«Чырвоны молат»** (кацельны цэх). У гэтым цэху рэдактар цэхавай газеты **П. Воранаў** арганізаваў пры рэдкалегіі брыгаду мастакоў з рабочых. Брыгада актыўна дапамагае прыгожа і ярка аформіць цэхавую і брыгадную газеты. Для рысункаў і карыкатур выкарыстоўваюцца таксама фотаздымкі, выразкі з журналаў і газет.

Рэдактар брыгаднай газеты электразваршчыкаў **«За якасць»** т. **Рудгайзер** сваёй бяздзейнасцю зрываў работу рэдкалегіі. А каб апраўдацца Рудгайзер гаварыў, што самі члены рэдкалегіі нічога не робяць.

**Удалай карыкатурай «Чырвоны молат» выкрывае Рудгайзера. Яго выводзяць са складу рэдкалегіі. І брыгадная газета пад новым кіраўніцтвам паступоваму пачынае разгортваць сваю работу.** Брыгадныя штодзёнкі, як і «Чырвоны молат» таксама добра афармляюцца. Заметкі пішуцца ясна і чыста, вялікімі выразнымі літарамі.

Ёсць і паасобныя зрывы. Трэба, напрыклад, прызнаць яўна няўдалай і нават шкоднай карыкатуру на тэму аб распаўсюджанні цэнтральнага друку, змешчаную ў газеце кацельнага цэха. Зборшчык падпіскі па цэху Доўнар праваліў гэту работу. Па віне Доўнара рабочыя былі астаўлены без цэнтральнага друку. Цэхавая газета змяшчае карыкатуру наступнага зместу: Доўнар адзявае каню акуляры, гаворачы, што



Карыкатура ў цэхавых насцен газетах завода імя Варашылава.

цяпер толькі яму. Доўнару, і каню прыдзецца чытаць газеты, бо ніхто не падпісвацца.

Выходзіць, што ў зрыве падпіскі вінават не Доўнар, а непасрэдна самі рабочыя. Тут газета ўдарыла міма цэлі.

***

**У фабрычна-заводскі і транспартны а таксама калгасны і саўгасны нізавы друк трэба шырока прасунуць яркую жывую карыкатуру, добры рысунак.** Магчымасці для гэтага ёсць. Трэба толькі сапраўды ўзяцца за справу, не забываючы асноўнае правіла—даць добрую якасць работы, добра прадумваць кожную карыкатуру, кожны рысунак.

*П. ВОРАНАЎ*

рэдактар цэхавай газеты завода імя Варашылава

# Мой вопыт і прапановы да з'езда

Электразваршчыкам на заводзе імя Варашылава я працую ўжо два гады. Я — парторг брыгады электразваршчыкаў і рэдактар цэхавай газеты **«Чырвоны молат»**. У сваёй брыгадзе я з першых-жа дзён работы ўзяўся за арганізацыю брыгаднай газеты. З членамі рэдкалегіі правёў гутарку, аб чым і як пісаць у газету і як арганізоўваць матэрыял.

Але спачатку газета дрэнна афармлялася. Не было карыкатур, рысункаў, добрых загалоўкаў. Мы прыцягнулі да работы ў газеце аднаго рабочага, які ўмее рысаваць. Зараз газета «За якасць» мае добры, яркі выгляд. Газета не дрэнна павяла барацьбу за якасную электразварку металаў.

У брыгадзе электразваршчыкаў 12 чалавек. 9 здалі тэхэкзамен, з іх 6—«выдатнікі». У палітшколе брыгады і цэха навучаюцца шэсць рабкораў.

Цяпер аб рабоце цэхавай газеты.

Рэдкалегія ў нас з 12 чалавек. Кожны член рэдкалегіі прымацован да вытворчай брыгады. У брыгадзе ён арганізуе матэрыялы і дапамагае ў рабоце брыгаднай газеты.

Пры цэхавай газеце мы стварылі брыгаду мастакоў. Гэтыя таварышы дапамагаюць кожнай брыгаднай газеце ў справе мастацкага афармлення.

**Я ўпэўніўся, што газеты з карыкатурамі і рысункамі лепш прыцягваюць да сябе чытача-рабочага.** Прычым карыкатура моцна ўздзейнічае на лодыра, прагульшчыка.

Мы выкарыстоўваем для газеты карыкатуры і рысункі з журналаў «Крокодил», «Лапоть», «Фабрично-заводская печать», «Большэвіцкі друк». Гэта дае магчымасць яшчэ больш ажывіць газету.

Мы рыхтуемся да рабселькораўскага з'езда і вось у сувязі з гэтым я думаю ўзняць пытанне аб **арганізацыі семінара рэдактароў і членаў рэдкалегій у цэху.** Іх у нас больш 20 чалавек.

Пры шматтыражцы павінна быць арганізавана **брыгада фотакораў і гурток мастакоў-карыкатурыстаў.**

Мая думка, што пры заводзе трэба мець **бібліятэчку рэдактара і рабкора,** каб рабкоры, рэдактары газет маглі па-







Карыкатура у бюлетэнях насценгазеты „Гудок" завода Імя Варашылава

*Куток рэдактара*

*П. Жарскі*

# Мова газеты павінна быць *жывой, папулярнай, адточанай*

## ГУТАРКА ДРУГАЯ

У папярэднім нумары журнала «Бальшэвіцкі друк» былі ўказаны найбольш характэрныя хібы ў мове нашага раённага друку.

Гэтым артыкулам мы прадоўжым разгляд мовы раённых газет, прычым завострым увагу пераважна на **сінтаксічных** недахопах і шурпатасцях газетнага стылю.

Трэба сказаць, што найбольш цяжкай, заблытанай і незразумелай становіцца мова тады, калі ігнаруюцца сінтаксічныя правілы, калі няма ў фразе сувязі, дапасаванасці, калі ў сказе прапушчан той ці іншы галоўны член—выказнік або дзейнік. *). Бо ненатуральнай, незразумелай робяць мову не толькі надуманыя, вычурныя словы, але ў першую чаргу няправільныя, недакладныя і блытаныя сінтаксічныя звароты.

Да новых слоў, да новых тэрмінаў, паняццяў лёгка прызвычаіцца, калі яны размеркаваны і расстаўлены ў сказе правільна, але не ўласцівыя структуры мовы звароты, адносіны паміж словамі, адсутнасць дапасаванасці слоў робяць мову непапулярнай і штучнай.

Вось чаму пры праўцы газетнага матэрыяла ў першую чаргу трэба сачыць, каб сказ быў пабудаван сінтаксічна правільна, каб словы былі ўдала звязаны паміж сабою.

І тут узорам таго, якой павінна быць мова газеты, з'яўляецца мова **В. І. Леніна** і тав. **Сталіна.** Мы бачым, якую надзвычайную сілу, эмацыянальнасць і даходчывасць маюць іх творы, бо ў іх трапны падбор лексікі, умелае і паслядоўнае злучэнне сказаў і слоў.

Калі з гэтага боку разглядаць мову нашых раённых газет, то якраз сінтаксіс з'яўляецца найбольш слабым іх месцам.

У беларускай мове, як і ў рускай, украінскай і яўрэйскай, пашыранай з'явай сталі **дзеяслоўныя назоўнікі** на месцы дзеясловаў. **). Такія сінтаксічныя звароты з дзеяслоўнымі назоўнікамі характэрны тым, што дзеяслоў звычайна са сказа выкідваецца, а яго ролю адыгрывае ўтвораны ад гэтага дзеяслова назоўнік, або дзеяслоў астаўляецца і да яго дадаецца адзін ці некалькі назоўнікаў. Напрыклад, «прыняць крокі **да выжыцця** замест **«выжыць»,** «ужыць захады **да прасоўвання тавараў»** замест **«прасунуць** тавары», «ужыць рад мерапрыемстваў **да выпраўлення памылак»** замест **«выправіць** памылкі» і т. д.

Не выступаючы ў прынцыпе супроць гэтай моўнай з'явы, трэба ўсё-ж сказаць, што раённаму друку, мова якога павінна быць папулярнай, канкрэтнай і даступнай шырокім працоўным масам, лепш унікаць, дзе гэта можна, сінтаксічных зваротаў з дзеяслоўнымі назоўнікамі, замяняючы іх дзеясловамі. Бо ад перагрузкі артыкула ці заметкі дзеяслоўнымі назоўнікамі ўскладняецца будова саміх сказаў, сувязь паміж словамі робіцца невыразнай, змяншаюцца сродкі маляўнічасці і дынамічнасці мовы.

---

*) Тое, аб чым гаворыцца ў сказе, называецца **дзейнікам.** Напрыклад, у сказе: «Падпісчык атрымаў газету» гаворыцца аб **падпісчыку.** Таму слова «падпісчык» і будзе дзейнікам. А тое, што робіць дзейнік, або ў якім ён знаходзіцца стане, ёсць **выказнік.** У нашым сказе выказнікам будзе слова **«атрымаў».**

**) **Дзеяслоў**—гэта часціна мовы, якая паказвае дзеянне або стан прадмета **(чытаю, пішу), з дзеяслоўнымі назоўнікамі** ад гэтых дзеясловаў будуць **чытанне, пісанне.**

Вось прыклад з ушацкай газеты **«Прымежны калгаснік»**:

**«Кулацкія элементы прынімаюць розныя меры для ўкрыцця ад уліку жывёлы».**

Ці не лепш было-б гэту думку выказаць так: «Кулацкія элементы ўсімі мерамі стараюцца ўтаіць жывёлу ад уліку».

Для многіх раённых газет характэрны такі зварот: «Рассцілільна будзем праводзіць па клеверышчу і сенажаці» (дубровенская газета «За соцыялістычнае будаўніцтва»). Замяніўшы-ж слова **рассціл** дзеясловам, сказ скароціцца і будзе лягчэйшым для ўспрыймання: «Рассцілаць лён будзем на канюшынішчы і сенажаці».

І яшчэ характэрны сказ з **«Чырвонай Полаччыны»**:

**«Гарсоветам не прынята ніякіх захадаў для насаджэння дрэў, шляхам наладжвання суботнікаў вучнямі, прафарганізацыямі».**

Гэты-ж абзац становіцца больш зразумелым і лёгкім, калі яго папраўіць так: «Горсовет не прыняў ніякіх мер, каб пасадзіць дрэвы, арганізаваўшы суботнікі вучняў, профарганізацый» і т. д.

З прыведзеных прыкладаў бачым, што ад ужывання дзеяслоўных назоўнікаў замест дзеясловаў мова становіцца цяжэйшай, прытупляецца, а сказы—даўжэйшымі.

Паўтараем, усё гэта не значыць, што дзеяслоўныя назоўнікі трэба выжываць з мовы. Але без патрэбы награмаджваць іх таксама няма неабходнасці.

Другой хібай мовы нашых раённых газет з'яўляюцца **пасіўныя звароты** ***) **ў сказах.**

У чырвонапольскай газеце **«Чырвоны сцяг»** ёсць такі абзац:

**«Тав. Кліменкоў адзначыў, што на пасылаемыя на расследванне рэдакцыяй лісты селькораў не даюцца доўгі час адказы, не змясціла яго лістоў рэдакцыя райгазеты і дрэнна рэагіруецца тымі ўстановамі і арганізацыямі, якім дасылаюцца лісты».**

***) **Пасіўны** зварот выглядае так: «Рэдакцыяй атрымана пісьмо ад селькора». Гэты-ж сказ пры **актыўным** звароце выглядае так: «Рэдакцыя атрымала пісьмо ад селькора».

Гэты сказ, паміма таго, што ён вельмі няграматна пабудаван, характэрны тым, што думка тут выказваецца пасіўным зваротам. А такія звароты найчасцей бываюць тады, калі пішучы не ведае канкрэтных асоб, невыразна ўяўляе факт, аб якім піша. У выніку, замест таго, каб напісаць, што канкрэтная ўстанова не дае доўгі час адказу на пісьмы селькораў, не рэагуе на іх, пішуць—не даюцца адказы, не рэагіруецца, як гэта зрабіў «Чырвоны сцяг» у прыведзеным прыкладзе.

Або вось яшчэ пасіўны зварот з гарадоцкай газеты **«Калгасная праўда»** (нумар за 27 ліпеня 1934 г.):

**«Актыву даручана арганізаваць справу так, каб штодзённым удзелам у чырвоным абозе забяспечыць поўнае выкананне калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай па мясу, сену і разгортванню масавай здачы збожжа».**

Па-першае, калі-б гэты сказ перавесці ў актыўную форму, то трэба было-б сказаць, **хто** канкрэтна даручыў актыву арганізаваць, каб калгасы, калгаснікі і аднаасобнікі поўнасцю выканалі свае абавязкі перад дзяржавай. Па-другое, фраза набыла-б больш дынамікі і стройнасці.

Паданыя ўрыўкі заметак з раённых газет гавораць за тое, што для таго, каб мова была канкрэтнай і папулярнай, трэба пасіўныя звароты пераводзіць у актыўныя, бо пасіўная форма ў дадатак параджае яшчэ **абстрактнасць** мовы.

Абстрактнай мова будзе і тады, калі аддаваць перавагу складаным выказнікам, калі скарачаць залежныя сказы праз фармальна-дапаможныя словы (шляхам, у галіне і інш.), калі трымацца аднастайных сінтаксічных канструкцый.

Раней мы ўжо зазначалі, што для дасягнення большай папулярнасці і выразнасці газетнага матэрыяла, не трэба перагружаць мову занадта **доўгімі сказамі і перыядамі.** Гэта зусім не значыць, што ў мове можна абмяжоўвацца толькі простымі, кароткімі сказамі, як гэта робіцца ўшацкай газетай. Для яе, напрыклад характэрны такія сказы:

«Старшыня калгаса Аляксёнак настроен **антыдзяржаўна»** (?!?); «Сёнаўборку пусцілі на апартуністычны самацёк»; «Уборку праводзяць па меры спеласці ўчасткаў»; «Учот аб'ектаў абкладання патрэбна было закончыць не пазней 5 ліпеня. Між тым. і па сёнешні дзень яшчэ не кончана(?)».

Трэба ўмела чаргаваць простыя сказы са складанымі.

В. І. Ленін і т. Сталін у сваіх творах шырока карыстаюцца не толькі простымі. але і доўгімі, складанымі сказамі і нават перыядамі, бо без складаных сказаў нельга выказаць рознастайных адценняў думкі. Але ў іх мы знаходзім гармонію ў карыстанні доўгімі сказамі і перыядамі. Доўгія сказы і перыяды ў іх заўсёды чаргуюцца з кароткімі, простымі, часта лаканічнымі.

Зусім не тое бачым у многіх раённых газетах. Там мову перагружаюць доўгімі сказамі, прычым часта без адпаведнай дапасаванасці паасобных залежных сказаў з галоўнымі. Ужо не адзін такі сказ дэманстраваўся намі і ў гэтым і ў ранейшых артыкулах. Але іх так багата ў раённых газетах, што не лішнім будзе і яшчэ пару прыкладаў прывесці.

У **«Прымежным комунары»** (жыткавіцкая газета № 100) адна заметка заканчваецца так:

**«Трыеры зусім і не думаюць рамантаваць калгасы «Дзень ураджая», «Чырвоны ўдарнік», для таго, каб разам з эбмэлотам наладзіць бесперабойную ачыстку зярна на трыеры, здаць дзяржаве добраякаснае збожжа і засыпаць для пасеву ачышчанае насенне».**

На першы погляд сказ напісан сінтаксічна нібы і правільна, але няўмелая расстаноўка слоў уносіць двухсэнсіцу. Невядома. трыеры зусім не думаюць рамантаваць калгасы, ці наадварот. А калі-б словы калгасы «Дзень ураджая» і інш. стаялі ў пачатку сказа, яснасць была-б поўная, сказ быў-бы някепскі. Праўда, у ім шмат арфаграфічных памылак.

І яшчэ ў нумары 72 чырвонапольскага **«Чырвонага сцяга»** чытаем:

**«Першы раённы злёт селькораў і рэдкалегій калгасных і брыгадных насценгазет, як адзначылі ў сваіх выступленнях селькоры, з'яўляецца тым злётам, які яшчэ больш прыблізіў селькораўскі атрад да РК КП(б)Б і ўсёй райпартарганізацыі, і што гэта дае магчымасць яшчэ з большай энергіяй ЗМАГАЮЦЦА селькорам і нізавому друку пад кіраўніцтвам райпартарганізацыі за выкананне пастэўпеных партыяй і ўрадам задач».**

Першае, каб прачытаць гэты сказ. трэба некалькі раз перадыхнуць, а другое, як звычайна ў такіх выпадках бывае, аўтар не саўладаў з мыслямі. Выліліся яны на паперу сумбурна, без дапасаванасці.

Або чаго варты такі сказ з гэтай-жа газеты:

**«Работнікі с-совета лічуць, што ЗА РАЗ НЕМА ЧАСУ ЗАЙМАЮЦЦА праведзеннем конкурсаў, бо «зараз праходзяць аб'екты абкладання».**

Тут звычайная для «Чырвонага сцяга» бязграматная фраза, якая кідаецца ў вочы нават малаграматнаму чытачу.

Характэрным заблытаным сказам з'яўляецца пачатак адной заметкі з гарадоцкай газеты **«Калгасная праўда»** (№ 96).

**«За парушэнне непахісных законаў аб першачарговай здачы збожжа дзяржаве. за кулацкія прынцыпы ў авансіраванні калгаснікаў, старшыня калгаса «Актывіст», Вышадскога сельсовета, Гапеенка, які замест таго, каб упершую чаргу выканаць абавязкі перад дзяржавай і потым авансіраваць калгаснікаў па працадням, размеркаваў жыта снапамі— прыцягнут да адказнасці».**

Такія сказы сведчаць толькі аб тым, як мала некаторыя рэдакцыі раённых газет працуюць над матэрыялам.

З усяго гэтага вынікае, што справа і не ў доўгіх сказах. Можна чаргаваць кароткія сказы, аддаючы ім перавагу, са складанымі, але будаваць іх трэба ўмела, стройна. У адваротным выпадку будзем частаваць чытача такімі «перламі», якіх багата мы прыводзілі і якія часта «ўпрыгожваюць» старонкі многіх раённых газет.

Самая нязначная невыразнасць фармулёўкі, недакладная пунктуацыя, часамі звычайная арфаграфічная памылка, няправільнае дапасаванне, няўдалая рас-

станоўка слоў блытаюць чытача, прымушаюць яго па некалькі раз перачытваць, каб зразумець напісанае.

Вельмі часта ў раённым друку мы можам прачытаць сказ і не зразумець, аб чым у ім гаворыцца, бо няма ў ім якога-небудзь галоўнага члена—дзейніка ці выказніка.

Дрысенская газета **«Звязда на рубяжы»** падае такія радкі:

> **«Каб звязаць сноп патрэбна звязаць у адзін сноп 3-4 жмені, а гэтым самым зацягвае работу вязальшчыкаў».**

Цяжка сказаць, хто ці што зацягвае работу вязальшчыкаў, бо няма тут дзейніка.

А вось як адбіваецца на выразнасці мыслі няправільная расстаноўка слоў у сказе:

> **«Амаль усе калгаснікі касцы 27 чалавек перавыконвалі норму», — піша «ПРЫМЕЖНЫ КОМУНАР».**

Пераставім словы інакш і будзем мець зусім граматны сказ: «Амаль усе 27 калгаснікаў-касцоў перавыконвалі норму».

Далёкае аднясенне ў складаным сказе злучальнага слова **«які»** ад таго слова, да якога яно дапасоўваецца, таксама ўносіць незразумеласць. Напрыклад, у дубровенскай газеце **«За соцыялістычнае будаўніцтва»** знаходзім такія словы (да рэчы, нават у загалоўку гэтай газеты дапушчана памылка: соцыялістычнае напісана праз **а** пасля **с**, а гэта-ж інтэрнацыянальна - рэволюцыйнае слова, якое не павінна падпадаць аканню):

> **«5 вазоў сена калгаснікі павезлі назад, а 9 вазоў сена скінулі каля загатоўчага пункта, якое раскрадзена».**

Для нас ясна, што слова «якое» адносіцца да слова «сена», але калі-б тут было яшчэ адно ці некалькі слоў такога-ж роду, як сена, то чытач не ведаў-бы, да чаго адносіцца «якое».

І яшчэ пару слоў аб тым, як праламляецца новы правапіс у раённым друку. Многімі газетамі ён зусім ігнаруецца. Асабліва гэта наглядаецца з ужываннем дзеяслоўных прыметнікаў. Дзеяпрыметныя формы можна дапускаць толькі такія: **чытаючы, чытаўшы, чытаемы, чытаны.** Але новы правапіс не ўзаконьвае такіх дзеяпрыметнікаў, як **маючыйся, адбыўшыйся, абавязуючыйся, узяўшыеся** і інш. Усе гэтыя словы выпісаны мною з гарадоцкай і жыткавіцкай газет. Самы-ж павярхоўны прагляд большасці газет пакажа, што такія дзеяпрыметныя формы амаль усюды практыкуюцца.

У некаторых газетах ужываюцца і такія формы дзеяслова, як **вазьмісь, засталась, змагалісь** замест **вазьміся, засталася, змагаліся; прынімая, змагаясь** замест **прымаючы, змагаючыся; бачуць, ходзе, носе** замест **бачаць, ходзіць, носіць.** Усе гэтыя вузка мясцовыя формы не ўласцівы беларускай літаратурнай мове і не павінны трапляць на газетныя шпальты.

Сінтаксічна правільна будаваць фразы, каб кожны сказ адпавядаў свайму баявому зместу, трэба вучыцца ў тт. **Леніна** і **Сталіна.** Ленінскую і Сталінскую канкрэтнасць і папулярнасць мовы, надзвычайную яе адточанасць, лаканічнасць моўных зваротаў побач з удалымі доўгімі сказамі, насычаную дыялектыкай падзей і думак, трэба настойліва праводзіць у нашым раённым друку.

---

*А. Волжынаў, М. Нэйман*

# ЗАГАЛОВАК

Загаловак у газеце перш за ўсё павінен быць чоткім, кідацца ў вочы, адрозніваецца ад побач стаячага загалоўка і зварачваць на сябе і на матэрыял увагу чытача.

Задаволіць гэтыя патрабаванні можа толькі **ўдалы, чытабельны загаловак.** Набіраць яго трэба шрыфтом, які лёгка ўспрыймаецца вокам і не патрабуе асаблівага напружання. Таму, што загаловак неразрыўная частка матэрыяла, яго трэба змяшчаць так, каб у чытача не было ніякага сумнення адносна таго, якога іменна **матэрыяла гэты загаловак датычыць.** Вось падвал з № 24 газеты «За большевистские колхозы» Крымскай МТС Паўночнага Каўказа.

Газета паўтарае памылку вельмі многіх палітаддзельскіх газет (дый не толькі палітаддзельскіх) і ў пагоні за «хараством» газетнай паласы ставіць загаловак падвала пасярэдзіне. Чытача такая пастаноўка загалоўка блытае і ён лёгка можа чытаць артыкул з другой калонкі, прапусціўшы пачатак, гэта значыць 1 калонку. Больш правільна паставіць загаловак іменна на першых двух калонках, тады ў чытача не будзе ніякага сумнення, адкуль пачынаць чытаць артыкул.

Пры невялікіх шрыфтавых запасах палітаддзельскіх друкарань у многіх таварышоў узнікае пытанне, ці можна, маючы 2-3 шрыфты, даваць рознастайныя загалоўкі, каб яны не зліваліся адзін з другім і каб кожны загаловак меў свой твар. Разгледзім нумар газеты «Ударник» Мала-Такайскай МТС, Кінель-Чэркасскага раёна, Сярэдня-Волжскага края.

Тут па сутнасці ў загалоўках ужываецца толькі **адзін шрыфт,** але розных размераў. Між тым газета выглядае вельмі цікава і жыва. Справа заключаецца ў тым, што рэдакцыя правільна вырашыла пытанне аб так званай «ігры шрыфтоў», якая ў старым разуменні заключалася ў выстаўленні на газетную паласу па магчымасці больш **розных шрыфтоў.** На прыкладзе «Ударника» мы бачым, што даволі спалучыць розныя кеглі, страчныя і прапісныя літары аднаго і таго-ж шрыфта і кожны загаловак атрымае свой твар. «Ударник» таксама добра даказвае, што канструк-


УДАРНИК

УДАРНО ПРОВЕДЕМ БОЕВОЙ ТРЕХДНЕВНИК ПО СБОРУ КОЛОСЬЕВ

ЕЩЕ РАЗ БУДЕМ ПРИНИМАТЬ ПОЛЯ

„Колос“ убрал поля образцово

СООБЩЕНИЕ ОТ РЕДАКЦИИ ГАЗЕТЫ „УДАРНИК“

ПРИСТУПАЕМ К РАСПРЕДЕЛЕНИЮ ДОХОДОВ

Узор вёрсткі 1-й старонкі палітаддзельскай газеты „Ударник“

цыя загалоўка ў газеце павінна быць **па магчымасці прасцейшай.**

**Неабходнасць прастаты і чоткасці** — вось які ўрок можна атрымаць з вопыта «Ударника». Зразумела, да гэтага вопыта можна ўнесці некаторыя папраўкі як у адносінах пабудовы паасобных загалоўкаў, так і ў адносінах развёрсткі матэрыяла.

Так, на першай паласе «Паведамленне ад рэдакцыі газеты «Ударник», данае ў рамцы, лепш было перанесці ўніз паласы і тым самым аддаліць ад другой рамкі, змешчанай на першай паласе.

Рэдакцыя злоўжывае лінейкамі паміж загалоўкамі і апошняя паласа здаецца занадта чорнай ад лінеек.

Але апрача прастаты ў вёрстцы «Ударника» можна ўбачыць яшчэ адну асаблівасць: **кантрастнасць у пабудове загалоўка.** Кантрастнасць гэта заключаецца з аднаго боку ў вар'іраванні раз-

мераў шрыфтоў (аб чым мы гаварылі вышэй), з другога боку—ва ўжываньні ў падзагалоўках **светлых шрыфтоў,** аб якіх гаварылася ў адпаведным раздзеле. Тут на прыкладзе відаць, наколькі дапамагаюць чоткасці загалоўка пастаўленыя для чаргаваньня светлыя шрыфты. Тут-жа на 4-й паласе відаць, што светлыя шрыфты злоўжываць нельга, як гэта зроблена ў першай калонцы. Другі радок загалоўка, набраны светлым шрыфтом відаць добра толькі пад чорнай лінейкай, з пачатку-ж над светлым шрыфтом ён амаль прападае для вока.

Газета «За большевистские колхозы» будуе свае загалоўкі інакш, чым «Ударнік». Калі ў «Ударнику» галоўнае прастата, то «За большевистские колхозы» робіць стаўку на канструктыўную пабудову загалоўка, або, інакш кажучы, **на акцэнтаваньне** (выдзяленьне) асноўнай ідэі загалоўка.

Акцэнтоўка загалоўка кідае ў вочы чытачу самае галоўнае, на чым хоча спыніць яго ўвагу рэдакцыя. Асабліва ўдала зроблен загаловак на другой паласе, дзе выдзелена: **«НОЧУЯ В ПОЛЕ, УБЕРЕМ УРОЖАЙ» *).** Загаловак 3 паласы **«НЕДОЧЕТЫ УБОРКИ»** у сілу вялікай складанасці сваёй пабудовы ўспрымаецца горш, а шапка 4-й паласы ўжо зусім няўдалая. Акцэнтаваньне загалоўка тут прыменена няправільна, бо чытачу будзе цяжка разабрацца ва ўсёй гэтай складанай камбінацыі шрыфтоў.

Нам здаецца, што самым мэтазгодным вырашэньнем пытаньня аб канструкцыі загалоўка будзе, калі за аснову прыняць простую пабудову загалоўка і рознастаіць акцэнтаванымі (але проста скампанаванымі, як «Ночуя в поле») загалоўкамі. Тады, зноў-жа ў сілу кантрасту, будуць выдзяляцца ўсе загалоўкі.

*) Трэба, аднак, адзначыць, надзвычай няўдалую кампаноўку ўсёй паласы. Рэдакцыйная перадоўка да аддзела «Ночуя в поле» аказалася зусім адарванай ад загалоўка і ад матэрыяла, якога яна датычыць. Тут аказваецца той-жа недахоп, што і ў падвале (загаловак пасерадзіне), калі тая-ж газета ва ўпічэрб успрыняццю матэрыяла ставіць загаловак не ў пачатку матэрыяла, кіруючыся імкненнем зрабіць паласу «прыгажэйшай».

Выходзячы з асноўнага нашага становішча—чоткасці і добрачытаемасці загалоўка,—мы павінны звярнуць асаблівую ўвагу на апрацоўку загалоўкаў. У загалоўках трэба ўнікаць пераносаў: прадлогі, адмаўленні, саюзы (у, к, і, але, не, а) нельга пакідаць у канцы радка, а абавязкова пераносіць у наступны радок, інакш атрымаецца такі загаловак

**ПРЕДЛОЖЕНИЕ НЕ**

**ПРАВИЛЬНО**

і чытач можа прачытаць або так зразумець, быццам «предложение правильно». Тое-ж самае датычыць і прадлогаў, саюзаў і т. д.

Наша патрабаваньне чоткасці і прастаты загалоўка таксама датычыць і загалоўка (назвы) газеты. І яго напісаньне павінна быць **чоткім, ясным, лёгка запамінаемым** і ён павінен знаходзіцца **на сваім месцы.**

Назва газеты, зробленая пэўным, памятным чытачу шрыфтом і змешчаная ўверсе газеты, стварае, так сказаць, пэўны твар газеты. Перамяшчэньне загалоўка ўніз рэзка мяняе твар газеты і робіць яго непрывычным чытачу. Апрача таго, сама па сабе першая паласа значна праігрывае і газета атрымліваецца як-бы без пачатку.

(З кнігі А. Волжынава і М. Нэймана «Афармленне і вёрстка палітаддзельскай газеты»).

## У ДАПАМОГУ КАЛГАСНАЙ НАСЦЕНГАЗЕЦЕ

# ЯК ПРАВОДЗІЦЬ СЕЛЬКОРАЎСКІ РЭЙД

Рэйд селькораў-ударнікаў друку — адна з важнейшых і найбольш пашыраных форм аператыўна-масавай работы нашых газет. Ініцыятарам першых рабселькораўскіх рэйдаў з'яўляецца «Праўда».

Па яе прыкладу правядзенне рэйдаў моцна ўкаранілася ў практыку работы ўсяго нашага друку. У гэтым артыкуле мы раскажам рэдактарам калгасных насценгазет, як трэба падрыхтоўваць і праводзіць рабселькораўскі рэйд.

**Рэйд арганізуецца рэдкалегіяй насценгазеты.** На рэдкалегію ўскладаецца адказнасць і за ўсю падрыхтоўчую работу, і за само правядзенне рэйда, і за далейшую работу па замацаванню яго вынікаў.

Перш чым прыступіць да работы па арганізацыі рэйда, рэдкалегія насценгазеты павінна **добра вызначыць задачы рэйда.**

Аб'ектам рабселькораўскага рэйда можа быць любая галіна работы калгаса. Напрыклад, ход уборкі і хлебапастаўак, барацьба брыгад са стратамі пры ўборцы ўраджаю, ход малацьбы і пастаўкі хлеба дзяржаве, работа калгаснай таварнай фермы, запіс калгаснікам працадзён і т. д. Возьмем, напрыклад, такое пытанне, як праверка якасці ўборкі ўраджаю. Кожнаму зразумела, што аднаму селькору цяжка і нават немагчыма праверыць работу ўсіх калгасных брыгад, звенняў па ўборцы. Іншая справа, калі па гэтаму пытанню арганізуецца рэйд. Брыгада селькораў здолее хутчэй і лепш праверыць работу брыгад, звенняў. Вынікі будуць больш глыбокія і ўсебаковыя.

Асаблівае значэнне селькораўскія рэйды набываюць зараз, калі партыя праводзіць вялікую работу па арганізацыі масавага кантролю над выкананнем рашэнняў партыі і ўрада. Рабселькораўскія рэйды, такім чынам, з'яўляюцца адной з лепшых форм масавага кантролю знізу.

**Для таго, каб рэйд прайшоў з поспехам, з найлепшымі вынікамі, да яго трэба добра падрыхтавацца.** Рэдкалегія насценгазеты павінна загадзя расказаць калгаснікам мэту і задачы будучага рэйда і калі ён будзе праведзен. Аб гэтым трэба правесці кароткія гутаркі з калгаснікамі па брыгадах хоцьбы ў часе перапынку на абед, змясціць у калгаснай насценгазеце 1-2 артыкулы.

Пасля таго, як калгаснікі ўжо азнаёміліся з задачамі надыходзячага рэйда, трэба пачаць падбор удзельнікаў рэйда і скласці памятку. Абодва гэтыя мерапрыемствы маюць асабліва вялікае значэнне.

**Прымаць удзел у рэйдзе павінны лепшыя селькоры-ўдарнікі.**

Трэба таксама прыцягваць да ўдзелу ў рэйд і лепшых аўтарытэтных калгаснікаў-ударнікаў, якія яшчэ не з'яўляюцца селькорамі. Гэта будзе спрыяць росту актыва вакол насценгазеты.

Падбіраць удзельнікаў рэйда трэба з такім разлікам, каб у рэйдавай брыгадзе былі людзі добра ведаючыя тую галіну работы калгаса, якая будзе праярацца. Напрыклад, калі рэйд праводзіцца па праверцы ходу малацьбы збожжа, то трэба каб два-тры ўдзельнікі рэйда добра ведалі малатарню, нормы дзеннай нагрузкі малатарні і т. д. Калі-ж рэйд арганізуецца па праверцы работы малочна-таварнай фермы, то рэйдавай брыгадзе нельга абыйсціся без спецыяліста-жывёлавода, ці хоць-бы вопытнага ў гэтай справе калгасніка. Інакш кажучы, трэба падбіраць рэйдавую брыгаду з людзей, добра знаёмых з усімі працэсамі той галіны работы калгаса, па якой праводзіцца рэйд. Трэба памятаць, што ад падбору людзей у рэйдавую брыгаду перш за ўсё залежыць поспех рэйда.

Сказанае вышэй, аднак, не азначае, што ў рэйдзе не могуць прыняць удзел маладыя, малавопытныя селькоры і калгаснікі. Іх таксама трэба прыцягваць да гэтай работы для таго, каб яны выхоўваліся і вучыліся.

**Лік удзельнікаў рэйда вызначаецца задачамі, якія стаяць перад рэйдам і ў адпаведнасці з колькасцю аб'ектаў праверкі.** Напрыклад, у часе рэйда трэба праверыць, як брыгады данага калгаса змагаюцца са стратамі пры жніве. У калгасе, уявім сабе,—чатыры брыгады. Працуюць брыгады на значнай адлегласці адна ад другой. У такім выпадку рэйдавая брыгада павінна мець больш удзельнікаў і лепш за ўсё арганізаваць чатыры рэйдавыя брыгады. Кожная з іх павінна праверыць адну вытворчую калгасную брыгаду.

**Адкуль браць удзельнікаў рэйда?** Некаторыя насценгазеты робяць так: трэба, напрыклад, праверыць брыгаду № 1, то з калгаснікаў гэтай-жа брыгады і вярбуюцца ўдзельнікі рэйда. Часцей-жа практыкуецца правядзенне рэйдаў шляхам **УЗАЕМАПРАВЕРКІ** брыгад. Гэта значыць, што рэйдавая брыгада, складзеная з селькораў і калгаснікаў брыгады № 1, правярае брыгаду № 2 і наадварот. Такім метадам узаемаправерак мы і раім рэдкалегіям праводзіць масавыя рэйды.

Вярбуюцца ўдзельнікі рэйдавых брыгад заўсёды ў добраахвотным парадку. Можна правесці вярбоўку, пагутарыўшы з паасобнымі селькорамі і калгаснікамі, вывесіўшы аб'явы з запрашэннем запісвацца ў рэйдавую брыгаду і т. д.

Калі ўдзельнікі рэйдавай брыгады падабраны, рэдкалегія павінна вылучыць адказнага за правядзенне рэйда брыгадзіра. Брыгадзірам рэйдавай брыгады павінен быць палітычна добра падрыхтаваны, вопытны і граматны селькор. Аб тым, каго вылучыць брыгадзірам рэйдавай брыгады, трэба параіцца з парторгам калгаса. Пажадана, каб брыгадзір быў з ліку найбольш вопытных, актыўных членаў рэдкалегіі насценгазеты.

Кожны ўдзельнік рэйдавай брыгады павінен добра ведаць не толькі агульныя задачы рэйда, але і ўсё да самых дробязей: што ён павінен праверыць, аб чым даведацца, што высветліць. Для гэтага складаецца **ПАМЯТКА** ўдзельніка рэйда. Памятку рэдкалегія павінна выпрацаваць загадзя. Пажадана, каб у яе складанні прымалі удзел парторг калгаса, а таксама спецыялісты і вопытныя калгаснікі-ўдарнікі.

Перад пачаткам рэйда рэдкалегія павінна сабраць усіх яго ўдзельнікаў на **інструкцыйную нараду.** На нарадзе неабходна расказаць, як трэба праводзіць рэйд і тут-жа падрабязна растлумачыць кожны пункт памяткі.

Рэйдавая брыгада не павінна абмяжоўвацца выключна толькі самой праверкай тых аб'ектаў, якія вызначаны памяткай. Справа ўдзельнікаў рэйда, выявіўшы той ці іншы недахоп, тут-жа на месцы дапамагчы яго выправіць. Часта яшчэ бываюць такія выпадкі: брыгада рэйда прышла правяраць, напрыклад, ход малацьбы збожжа: высвятляюць, што сіты ў маталарні пастаўлены няправільна і добрае збожжа з-за гэтага ідзе ў адыход: селькоры заўважылі гэта, але не дабіваюцца, каб недахоп адразу-ж выправілі. Яны разважаюць так: «Зараз не трэба нічога рабіць, затое заўтра напішам у насценгазеце пра гэту агіднасць». **Так рабіць ні ў якім разе нельга.** Выяўленыя факты павінны быць асветлены ў насценгазеце, але кожная выяўленае недарэчнасць **з дапамогай удзельнікаў рэйда павінна выпраўляцца неадкладна ў працэсе работы.**

Ёсць і такія яшчэ скажэнні ў правядзенні рэйдаў. Трэба, напрыклад, рэйдавай брыгадзе праверыць догляд кароў на малочна-таварнай ферме, улік малака і т. д. Вось і прыдуць селькоры да загадчыка фермы, распытаюць яго аб усім, запішуць і накіруюцца назад. **Гэта няправільна.** Селькоры не павінны нікому верыць **на слова ў часе рэйда.** Нават кожную дробязь таго, што правяраецца, селькоры павінны бачыць самі сваімі вачыма.

Усе выяўленыя ў часе рэйда факты трэба падрабязна **запісваць.** Запісвае звычайна хто-небудзь адзін з удзельнікаў рэйдавай брыгады. Запісваць трэба не толькі самыя факты, недахопы, але абавязкова і **прозвішчы тых людзей,** якія адказваюць за даны ўчастак работы. Галоўная задача ўдзельнікаў рэйда ў тым і заключаецца, каб **выявіць усіх канкрэтных носбітаў зла, выявіць прычыны недахопаў, іх карэнні.**

Работа рэйдавай брыгады павінна праходзіць пры самым актыўным

ле калгаснікаў, працуючых на тых участках, якія правяраюцца рэйдам. Калгаснікаў трэба прыцягваць да абгаварэння выяўленых рэйдам недахопаў. Напрыклад, селькоры праверылі якасць уборкі збожжа ў брыгадзе № 2. Высветлілі, што жнуць збожжа не чыста, астаўляюць не зжатымі вуглы на заваротах жняяркі. Рэйдавая брыгада павінна ў часе перапынку сабраць усіх калгаснікаў брыгады, разам з імі абгаварыць гэтыя недахопы. Тут-жа павінны быць прыняты меры, якія-б забяспечылі тэрміновую ліквідацыю выяўленых недахопаў.

Вялікую карысць дае выпуск у часе рэйда невялікіх **насценгазет-лістовак,** у якіх змяшчаюцца кароткія заметкі аб выяўленых рэйдам недахопах і паведамленні аб прынятых мерах.

Але вось брыгада вярнулася з рэйда. Усё праверана, высветлена і ўсе факты падрабязна запісаны. На гэтым, аднак, яшчэ не канчаецца работа рэйдавай брыгады. Цяпер усім удзельнікам рэйда трэба сабрацца і на падставе сабранага матэрыяла напісаць заметку ў насценгазету. Робіцца гэта звычайна так: найбольш граматны, палітычна падрыхтаваны ўдзельнік рэйда піша заметку; потым заметку абмяркоўваюць усе ўдзельнікі рэйда. Уносяцца дапаўненні, папраўкі, змены. Падпісваецца матэрыял прозвішчамі **ўсіх** удзельнікаў рэйда.

⯌

Матэрыялы рэйда і напісаныя заметкі здаюцца рэдкалегіі насценгазеты. Задача рэдкалегіі — дабіцца, каб усе ўказанні рэйдавай брыгады **былі праведзены ў жыццё,** каб усе выяўленыя недахопы былі **неадкладна знішчаны.**

Рэдкалегія не павінна марынаваць ні аднаго дня заметкі ўдзельнікаў рэйда. Лепш за ўсё змясціць іх у той-жа дзень, калі быў праведзен рэйд. Калі па раскладу чарговы нумар насценгазеты выходзіць толькі праз 2-3 дні, то трэба з матэрыяламі рэйда выпусціць спецыяльны нечарговы нумар.

Апрача таго рэдкалегія павінна паставіць пытанне аб выніках рэйда на агульным ці брыгадным сходзе калгаснікаў, а таксама на праўленні калгаса. Па кожнаму канкрэтнаму факту, які патрабуе рэагавання, павінны быць прыняты неадкладныя меры.

---

НАША КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# За планавасць і масавасць,

## за граматную, агульнадаступную газету

***Часова выконваючаму абавязкі рэдактара газеты „Палітаддзельская звязда“ (Заслаўская МТС) тав. Я. Хайкіну***

Вы прыслалі апошнія нумары вашай газеты з просьбай зрабіць іх агляд, указаць на іх недахопы. Ахвотна выконваем вашу просьбу. Мы ўважліва вывучылі прысланыя чатыры нумары «Палітаддзельскай звязды», якія вышлі ў ліпені. Не спыняючыся на добрых баках, укажам вам на тыя недахопы, якія мы ў іх заўважылі.

***

### НАВУЧЫЦЕСЯ ПРАЦАВАЦЬ ПА ПЛАНУ

Возьмем нумар «Палітаддзельскай звязды» за 28 ліпеня. Што павінна было быць галоўным пытаннем гэтага нумара? Безумоўна, ход уборкі ўраджаю і выкананне хлебапаставак калгасамі зоны дзейнасці МТС. У вас-жа не тое атрымалася.

На першай старонцы пад шапкай «Выканаць ліпеньскі план хлебапаставак і натурплаты—справа гонару кожнага калгаса» надрукаваны толькі дзве заметкі з калгасаў. У адной з іх выкрываюцца папойкі старшыні калгаса «Новы свет», другая паведамляе аб

здачы дзяржаве трох цэнтнераў хлеба калгасам «Герой працы».

Гэтыя дзве заметкі не даюць ніякага ўяўлення аб тым, як разгортваюцца ўборачныя работы і хлебапастаўкі ў вашых калгасах.

Які-ж матэрыял вы павінны былі надрукаваць у гэтым нумары? Такі матэрыял, які-б правільна выкрываў **найбольш тыповыя недахопы першых дзён уборкі і хлебапаставак і мабілізаваў калгаснікаў на ліквідацыю гэтых недахопаў.** Зрабіць гэта вы мелі поўную магчымасць. Нумар газеты вышаў 28 ліпеня, а жніво ў вашым раёне (паводле матэрыялаў вашай-жа газеты) пачалося 15 ліпеня. Такім чынам вы мелі самае меншае 7-8 дзён, каб арганізаваць патрэбны ў гэты нумар матэрыял.

Значыць, уся справа ў тым, каб загадзя добра прадумаць змест будучага нумара газеты, скласці яго прыблізны план і па гэтаму плану арганізаваць патрэбны матэрыял. Прыклад з уборкай ураджаю і хлебапастаўкамі аднолькава датычыцца і да ўсіх астатніх пытанняў, якія вы будзеце ўзнімаць у вашай газеце.

Але вось план складзен. Што трэба далей рабіць? Перш за ўсё трэба адразу давесці яго да вашых селькораў. Напішыце на першы раз хоць-бы 4-5 пісем больш актыўным селькорам, раскажыце ім, якія пытанні зараз асабліва важны, аб чым яны павінны напісаць у палітаддзельскую газету. Пры выездзе ў калгасы пагутарце асобна з селькорамі на гэту тэму.

Вельмі добра будзе, калі вы арганізуеце ў некалькіх буйных калгасах селькораўскія пасты на час уборкі ўраджаю і загатовак. Праз цесную сувязь са сваімі пастамі вы заўсёды будзеце добра ведаць ход работ у калгасах. Добра праінструктаваныя пасты змогуць тэрмінова паведаміць у палітаддзел і яго газету пра ўсякую недарэчнасць у калгасе, а таксама перадаць і дадатны вопыт.

Адпаведную работу неабходна правесці і з рэдкалегіямі калгасных і брыгадных насценгазет. Яны павінны быць калектыўнымі карэспандэнтамі газеты палітаддзела і трымаць з вамі самую цесную сувязь.

План работы газеты трэба складаць, выходзячы з плана работы палітаддзела, з тых мерапрыемстваў, якія палітаддзел намячае правесці ў бліжэйшы час. У сваю чаргу вы павінны давесці да ведама работнікаў палітаддзела план газеты. Будучы ў калгасах, работнікі палітаддзела дапамогуць вам у арганізацыі патрэбнага для газеты матэрыяла.

Вось некаторыя спосабы арганізацыі матэрыяла для палітаддзельскай газеты. Але галоўнае не ў гэтым. Асноўная частка матэрыяла вам павінна паступаць ад радавых вашых селькораў, ад калгаснікаў і калгасніц.

## ЗРАБІЦЕ ГАЗЕТУ МАСАВАЙ

Мы ўважліва праглядзелі ўсе чатыры ліпеньскія нумары «Палітаддзельскай звязды». Па іх можна меркаваць, што ў вас вельмі мала селькораў, вельмі слабы селькораўскі актыў. Літаральна па пальцах адной рукі можна пералічыць колькасць аўтараў матэрыялаў, змешчаных у гэтых нумарах. Многа рэдакцыйных артыкулаў, змешчаных без подпісу, залішне афіцыяльнага матэрыяла, пастаноў. Некалькі артыкулаў, падпісаных прозвішчам «Ерастаў» (відаць раённы работнік) і толькі некалькі заметак, падпісаных псеўданімамі «Ведаючы», «Калгаснік», «Мяцежны», «Селькор» і «Свой», належаць пяру селькораў і калгаснікаў.

Усё гэта гаворыць не ў вашу карысць. Адразу відаць, што вы мала працуеце з селькорамі, дрэнна звязаны з масамі. У гэтым і хаваецца прычына таго, што вы не здолелі своечасова выкрыць недахопы ў ходзе ўборкі і хлебапаставак у калгасах. Тое самае і ў іншых галінах работы газеты. Палітаддзельская газета толькі тады будзе на вышыні пастаўленых перад ёю задач, калі яна будзе масавай газетай, калі пераважная частка матэрыялаў будзе напісана селькорамі і калгаснікамі.

З гэтым звязана другая ваша задача—дабіцца чоткага рэагавання на кожную заметку селькора і пісьмо калгасніка, незалежна ад таго, ці змешчаны яны ў газеце, ці накіраваны на расследванне.

Па ліпеньскіх нумарах «Палітаддзельскай звязды» не відаць, як рэагуюць на тыя заметкі селькораў, якія ў іх надрукаваны.

За гэты час вы змясцілі паведамленне аб прынятых мерах толькі па адной заметцы селькора (28 ліпеня). Якія меры прыняты па астатніх селькораўскіх заметках—невядома. Раім вам завесці ў кожным нумары спецыяльны аддзел «Па слядах заметак селькораў» (назва ўмоўная) і друкаваць у ім паведамленні аб тым, што зроблена па сігналах селькораў. Гэта ўзніме дзейснасць матэрыялаў газеты і будзе спрыяць росту селькораўскага актыва.

## ГАЗЕТА ПАВІННА БЫЦЬ ГРАМАТНАЙ І ЗРАЗУМЕЛАЙ

А ў вас у гэтай галіне далёка не ўсё ў парадку. Мы вось у рэдакцыі чыталі матэрыялы вашай газеты і з цяжкасцю дабіраліся да сэнсу паасобных сказаў і выразаў. Укажам вам на некаторыя прыклады.

У заметцы «Прапрацоўваюць рашэнні пленума ЦК» (28 ліпеня) ёсць такі сказ:

**«З 15-ці свінаматак пакрыта ўсяго 10, такім чынам план, які мае ферма 111 галоў стаіць пад пагрозай зрыва».**

Сказ пабудаван на дзіва няграматна. Ніяк нельга зразумець, што азначае «план, які мае ферма 111 галоў». Можна думаць, што ферма мае заданне злучыць 111 свінаматак, але ў гэтым-жа сказе вы пішаце: «З 15 свінаматак пакрыта толькі 10». Значыць на ферме 15 свінаматак. Так і нельга зразумець, што-ж хацела газета сказаць.

У тым-жа сказе вы пішаце «план... стаіць пад пагрозай зрыва». Гэта канцылярскі, пратакольны зварот. У газеце такіх зваротаў ужываць не трэба. Мова газеты павінна быць жывой і вобразнай, мовай рабочых і калгаснікаў. А вы наўрад-ці калі-небудзь чулі, каб калгаснік гаварыў: «План у нашай брыгадзе пад пагрозай зрыву».

18 ліпеня ў вашай газеце надрукаван няпоэнны артыкул «Свінаферма калгаса «Будзённы» (трэба было напісаць—імя Будзённага) перабудоўвае сваю працу». Але і гэты артыкул не пазбаўлен граматычных памылак і няўдалых выразаў. Напрыклад, у ім ёсць такі сказ:

**«Даглядчыца Саковіч Наста кажа: няма ў нас ранейшых безабразі па свінаферме за парасятамі мы даглядаем лепш, кожная з нас ведае сваю адказнасць за прымацаваную частку свіней».**

Сказ надрукаван вельмі няграматна. У ім ёсць уласныя словы даглядчыцы, якія трэба было выдзеліць двукоссямі.

Пасля слоў «на свінаферме» трэба было паставіць кропку ці хоць-бы коску. Выраз «кожная з нас ведае сваю адказнасць» няправільны. Трэба было напісаць «кожная з нас адказвае» і т. д. Правільна напісаным гэты сказ выглядаў-бы так:

**«Даглядчыца Саковіч Наста кажа: «У нас на ферме няма ўжо ранейшых агіднасцей. Парасят мы даглядаем лепш, кожная з нас адказвае за прымацаваную частку свіней».**

З гэтага прыкладу відаць, што для таго, каб сказ быў правільным, трэба не толькі словы правільна напісаць, але і правільна расставіць знакі прыпынку.

Нельга ўжываць незразумелых слоў і выразаў. Ваша газета разлічана на калгаснікаў і пісаць трэба так, каб калгаснікі добра зразумелі ўсё, пра што піша газета.

Вы-ж дапускаеце ў газеце такія словы як «платработнік» (3 ліпеня), «раз-лагальнік» (28 ліпеня) і іншыя. І ўжо нікуды не варта пісаць даты месяцаў так, як напісана ў № 20 вашай газеты: «16-vii.17-vii. 15-vп». Каму патрэбны гэтыя зашыфраваныя знакі? Які калгаснік зразумее іх? Чаму-б не напісаць проста, па-людску: «17 ліпеня (ці жніўня)» і т. д.

Звярніце асаблівую ўвагу на граматнасць газеты, тав. Хайкін. Гэта пытанне вялікай палітычнай важнасці. ЦК ВКП(б) пастанавіў стварыць пры ўсіх палітаддзелах **«невялікія, агульнадаступныя»** газеты. Агульнадаступная—гэта такая газета, якую нават малаграматны калгаснік і калгасніца зразумеюць ад пачатку да канца. Такой газетай і павінна стаць «Палітаддзельская звязда».

Вось, тав. Хайкін тыя некалькі заўваг пра газету «Палітаддзельская звязда», на якія мы звярачаем вашу ўвагу. Улічыце іх у вашай далейшай рабоце. Трымайце сувязь з нашым журналам. Мы будзем рэгулярна адказваць вам на кожнае ваша запытанне на старонках журнала, або пісьмамі.

# Пагутарым з рэдактарам раённай газеты

## *Рэдактару газ. „Калгаснік Старобіншчыны" т. Бароўскаму*

У нумары 93 Вашай газеты за 28 ліпеня ёсць рад вельмі няўдалых, няграматных сказаў. Аб гэтых сказах мы і хочам сёння пагутарыць з Вамі.

У заметцы «Вартаўнікі, якія не здольны ахоўваць ураджай» вы пішаце:

**«Другі вартаўнік Малаш Паўлюк ХВОРЫ НА РУКУ І НЕ КАЛІ не вылазіць з хаты».**

«Хворы на руку» — такога літаратурнага выразу няма. Праўда, у нас ужываюць: «ён хворы на грып» і т. д., але нельга пісаць «хворы на руку». Трэба было напісаць: «У другога вартаўніка баліць рука».

Няправільна напісана і «не калі», трэба было напісаць «ніколі».

У другой заметцы «У калгасе «3-ці рашаючы» псуецца ячмень» напісана:

**«Чым іншым, як не кулацкай работай можна расцаніць той факт»...**

А трэба было напісаць так: «Як інакш як не кулацкай работай можна назваць той факт...»

Або другі сказ у гэтай заметцы:

**«Тое што ўраджай марна гіне на полі НЕ ПРЫБРАТЫМ НІ ЧУЦЬ не трывожыць праўленне».**

Няма ў беларускай мове слова «прыбраты», ёсць слова «прыбраны». Але ў даным выпадку і гэта слова не падышло-б, бо ўраджай нельга прыбраць, а трэба было напісаць «не ўбраны». Трэба было, далей, пісаць не «ні чуць», а «ніколькі не турбуе».

І далей у гэтай-жа заметцы пішацца:

**«... якi аб ВЯДЗЕННІ ШТОДЗЕННАЙ барацьбы са стратамі пры ўборцы зусім забыў».**

**(Падкрэслена ўсюды намі. Рэд. «Б.Д.»).**

Слова «вядзенні» тут зусім лішняе. Лепш было-б напісаць так: «якi аб штодзеннай барацьбе са стратамі зусім забыў».

«Высоцкі **САБАЦІРУЕ»** сенazагатоўкі» Такі загаловак далі вы над адной заметкай.

Па-беларуску нельга пісаць «сабаціруе», «ігнарыруе», як у вас напісана, а трэба пісаць «сабатуе», «ігнаруе», «канстатуе» і т. д. (суфікс «ір» павінен выкідвацца з іншамоўных слоў).

Удумайцеся, тав. Бароўскі, у сказ

**«РК КП(б)Б павінна прыняць адпаведныя меры».**

і вы самі ўпэўніцеся, што гэты сказ няграматны. Райком (скарочана РК) — слова **мужчынскага** роду і таму трэба было напісаць «РК КП(б)Б **павінен прыняць меры»**, а не «павінна».

І, нарэшце, аб слове **«АНТЫДЗЯРЖАЎНІКІ»**. (Заметка «Даць адпор антыдзяржаўніку»). Гэта слова штучнае, выдуманае вамі. Можна сказаць «антыдзяржаўныя настроі», «антыдзяржаўныя тэндэнцыі», але нельга гаварыць «антыдзяржаўнікі».

Трэба, тав. Бароўскі, уважлівей адносіцца да праўкі газетнага матэрыяла.



Дзіцячыя яслі ў калгасе «Чырвоны спецыяліст» 1-ай Менскай МТС.



Інспекцыя па якасці калгаса «Чырвоны спецыяліст» аглядае ўраджай.

> »Зрабіць карэспандэнцыі рабселькораў асноўным матэрыялам нашых нізавых органаў друку»
> ПОСТЫШЭЎ

*Н. Сырэц*

# ПІСЬМАМ РАБОЧЫХ І КАЛГАСНІКАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЕ МЕСЦА Ў ГАЗЕЦЕ

Расце з года ў год прыток пісем рабочых і калгаснікаў у рэспубліканскі, раённы і фабрычна-заводскі друк. Зараз раённыя газеты БССР штодзённа атрымліваюць у сярэднім ад 10 да 20 і больш пісем.

Задача друку заключаецца ў тым, каб узначаліць гэты велізарны рост палітычнай актыўнасці мас, **акружыць кожнае пісьмо, кожную карэспандэнцыю рабочага і калгасніка сапраўднай большэвіцкай увагай.**

Газета павінна рабіцца шырокімі масамі рабочых і калгаснікаў.

**«...Давайце шырэй рабочым магчымасць пісаць у нашу газету, пісаць аб усім рашуча, пісаць як можна больш аб будніпшім сваім жыцці, інтарэсах і рабоце...»** пісаў **В. І. Ленін** у сваім вядомым пісьме да таварышоў.

**«Зрабіць карэспандэнцыі рабселькораў асноўным матэрыялам нашых нізавых органаў друку»**,—так паставіў пытанне тав. **Постышэў** на абласным злёце рабселькораў Харкаўшчыны.

Рашэнне ЦК КП(б)Б аб рабоце рэспубліканскіх газет з рабселькорамі і пісьмамі працоўных выклікала відавочны пералом у гэтай справе. Паасобныя газеты значна палепшылі сваё кіраўніцтва рабселькорамі і работу з пісьмамі рабочых і калгаснікаў.

Але гэта толькі пачатак. Многія рэдактары раённых газет яшчэ і па сёнешні дзень не ўсвядомілі ўказанняў тав. Постышэва і ЦК КП(б)Б.

На старонках некаторых раённых газет пісьмы рабочых і калгаснікаў выцясняюцца матэрыяламі работнікаў рэдакцый, рознымі афіцыяльнымі цыркулярамі, пастановамі і т. д. Часта замест хуткага рэагавання пісьмы перасылаюць з аднаго месца ў другое і яны, нарэшце, губляюцца ў нетрах ведамственных канцылярый або ў архівах рэдакцый.

Возьмем, напрыклад, **жыткавіцкую райгазету** (рэдактар тав. **Дзятлоўскі**). У прагледжаных дзесяці нумарах можна знайсці карэспандэнцыі каля 20 рабселькораў. А жыткавіцкая раённая газета яшчэ ў мінулым годзе, маючы 69 рабселькораў, атрымала 2.684 карэспандэнцыі (прыблізна па 7 карэспандэнцый у дзень). Зараз газета налічвае 120 рабселькораў. Прыток пісем і карэспандэнцый таксама павялічыўся, але пісьмы рэдка пападаюць на старонкі газеты.

Аналагічнае становішча і ў **сіроцінскай** раённай газеце, дзе ў дзесяці нумарах газеты змешчаны матэрыялы толькі 15 рабселькораў.

Гэтыя факты красамоўна паказваюць, што ў рэдакцыях жыткавіцкай і сіроцінскай газет пісьмы рабочых і калгаснікаў не карыстаюцца ўвагай.

Некаторыя работнікі імкнуцца апраўдаць такое становішча невялікімі памерамі газеты.

Але не ў гэтым прычыны. Месца для пісем працоўных і рабселькораўскіх карэспандэнцый заўсёды знойдзецца, патрэбна толькі ўмела і рацыянальна выкарыстоўваць месца ў газеце.

Возьмем дзесяць нумароў **уздзенскай** раённай газеты (рэдактар т. **Сарэнзон**). Работнікі апарата рэдакцыі самі пішуць вялікія перадавыя і іншыя артыкулы, вялікія фельетоны (часамі зусім няўдалыя і нікому непатрэбныя), а вось арганізаваць матэрыялы рабселькораў, даць магчымасць самім масам калгаснікаў больш пісаць у газету—рэдакцыя не імкнецца.

Такі малюнак і ў **чашніцкай** раённай газеце (рэдактар тав. **Прахарэнка**). Там нехта **Касцюковіч**—«спец» па ўсіх пытаннях. Амаль у кожным нумары газеты ёсць яго матэрыялы. Было-б значна лепш, каб газета змяшчала больш карэспандэнцый рабселькораў, больш пісем працоўных.

Трэба пакончыць з такім становішчам. **Пісьмы рабочых і калгаснікаў, матэрыялы рабселькораў павінны заняць сапраўды вядучае месца ў газеце.**

Трэба таксама забяспечыць быстрату і дзейснасць рэагавання.

Звычайна большую частку пісем пасылаюць для расследвання і рэагавання. Многія газеты робяць гэта механічна. Пашлюць і забудуць. Лёс пісьма астаецца невядомым.

Паасобныя газеты (глуская, уздзенская, жлобінская) пасылалі заметкі і пісьмы ў калгас, аб якім ідзе гутарка, у відзе **сігнальных лісткоў** для рэагавання. Гэты метад выкарыстання карэспандэнцый з'яўляецца па сутнасці **бюракратычнай спробай адмахнуцца ад сігналаў рабселькораў.**

Далейшым лёсам «сігнальнага лістка» рэдакцыі, як правіла, не цікавяцца. І ў выніку на месцы «рэагуюць» так, як каму ўздумаецца, і карэспандэнцыя, ініцыятыва рабселькора трацяць сваё значэнне, не дасягаюць мэты. Падобныя метады трэба неадкладна спыніць.

Ёсць яшчэ і такія «работнікі», якія селькораўскія заметкі скарыстоўваюць для сваіх уласных артыкулаў, так, што перапісваюць факты, аб якіх паведамляюць рабселькоры, нават не ўказваючы аўтараў, і ставяць пад гэтымі артыкуламі свой подпіс. І з гэтым, з дазволу сказаць, метадам трэба пакончыць.

Рыхтуючыся да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, друк БССР абавязан рашуча ўзмацніць кіраўніцтва рабселькорамі, сваю работу з пісьмамі рабочых і калгаснікаў.

Указанне тав. **Кагановіча** на пленуме камісіі партыйнага кантроля аб тым, што **«рабочаму пісьму і заметцы павінна належаць цэнтральнае месца ў заводскай газеце»,** газетамі БССР і асабліва раённымі павінна быць поўнасцю ажыццёўлена.

*С. Шаірка*

**рэдактар насценгазеты калгаса «БЯЗБОЖНІК».**

# „ВЫ ВЕЛЬМІ МНОГА ПІШАЦЕ“

У калгасе **«Бязбожнік»** (Лёзненскі раён) выходзяць чатыры насценгазеты: агульна-калгасная і тры брыгадныя. Вакол насценгазет згрупаваўся значны актыў селькораў з ліку лепшых ударнікаў-калгаснікаў. На працягу двух апошніх год нашы селькоры выкрылі дзесяткі класава-варожых элементаў, якія шкодзілі калгасу, разбазарвалі калгасную маёмасць.

Насценгазета выкрыла кулака **Брэмшмідта,** меўшага раней звыш 30 гектараў зямлі, які быў у 1932 годзе старшынёй калгаса. Таксама быў выкрыт і выключан з калгаса шкоднік **Казлоў** і інш. Усе гэтыя варожыя нам людзі займалі ў калгасе адказныя пасады і ледзь не пусцілі ўсю гаспадарку на вецер.

Аднак ад чужакоў і шкоднікаў наш калгас не ачышчан поўнасцю яшчэ і зараз. І нашы селькоры не аслабляюць сваёй пільнасці ў барацьбе з імі. Але ў гэтай справе мы не атрымліваем патрэбнай дапамогі ад раённай газеты і раённых устаноў. Вось некалькі прыкладаў.

Старшынёй рэвізійнай камісіі і кладаўшчыком у калгасе зараз працуе **БУРЫ.** Ён аказаўся не чыстым па руку. Вясною пры праверцы ў яго не хапіла 3.5 цэнтнера насеннага аўса. Гэты авёс Буры проста ўкраў, маючы ключы ад свірна. Апрача таго Буры разам з жонкай займаецца раскрадваннем кармоў на калгаснай свінатаварнай ферме.

Некалькі раз мы пісалі пра махінацыі Бурага ў насценгазеце. Гэта не дапамагло. Тады мы сабралі ўвесь матэрыял і накіравалі ў раённую газету **«ЛЕНІНСКІ СЦЯГ».** Думалі, раённая газета дапаможа нам пазбавіцца ад шкодніка і злодзея. Аднак, нашы надзеі не збыліся. У рэдакцыі газеты «Ленінскі сцяг» паклалі гэту справу пад сукно.

Другі факт. Вясною гэтага года селькор **Каралёў Пятро** выкрыў у брыгаднай насценгазеце заядлага гультая Сафронава. Сафронаў стаў пагражаць Каралёву і неўзабаве збіў яго да непрытомнасці. Напісаў я і пра гэты выпадак заметку ў раённую газету. Прайшоў месяц, з райгазеты пра гэту справу ні слуху, ні духу. Пашоў я сам у рэдакцыю высніць у чым справа. Аказалася, маю заметку былі згубілі ў па-

перах рэдакцыі і якраз к майму прыходу знайшлі. Намеснік адказнага рэдактара т. **ЛЕЙБІН** узяў заметку і кажа: мне: **«Бачыш, гэта справа не такая важная, трэба яе ўладзіць на месцы».**

Перадалі справу аб нападзе на селькора райпракурору. Пракурор таксама палічыў, што справа «не такая важная» і ў сваю чаргу перадаў яе ў наш калгасны суд. Калгасны суд справу не разбіраў, бо па інструкцыі справы аб цкаванні селькораў павінны разглядацца толькі ў народным судзе.

Застаўшыся непакаранымі, зажымшчыкі самакрытыкі і праследвальнікі селькораў яшчэ больш распіразаліся. Зусім нядаўна падкулачнік **ЖЛУХЦЕНКА** сарваў насценгазету першай брыгады. Ніхто нават і не думае аб прыцягненні гэтага антыграмадскага элемента да адказнасці. Не глядзячы на патрабаванне агульнага схода калгаснікаў брыгады, праўленне калгаса адмаўляецца разглядаць справу Жлухценка. Старшыня калгаса, член партыі **КАБАКОЎ** сам дрэнна адносіцца да селькораў і прыкрывае зажымшчыкаў самакрытыкі.

Яшчэ адну важную маю заметку замарынавала раённая газета. Пісаў я пра брыгадзіра **ЛАХВАЕНКА,** які разваlivae брыгаду і раскрадвае калгасны хлеб. Як і на дзесяткі іншых, і на гэту заметку адказу я не атрымаў. Парашыў я яшчэ раз пайсці ў рэдакцыю і высветліць, нарэшце, чаму марынуюцца мае заметкі. На маё запытанне загадчык сельгасаддзела рэдакцыі тав. **ГОРБАРАЎ** адказаў: «Заметку пра брыгадзіра Лахваенка мы паклалі ў архіў. **Вы вельмі многа пішаце,** не можам-жа мы ў газеце пісаць толькі пра адзін ваш калгас».

Вось як па-чыноўніцку адносіцца рэдакцыя газеты «Ленінскі сцяг» да важнейшых спраў, якія ўзнімаюцца нашымі селькорамі.

**АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя журнала лічыць недапушчальнымі факты чыноўніцка-бюракратычных адносін работнікаў газеты «Ленінскі сцяг» да раду важнейшых заметак і пісем селькора т. ШАІРКА. Асабліва абураючы факт злачыннай цяганіны і змазвання справы аб цкаванні і збойстве селькора т. КАРАЛЁВА. Рэдакцыя газеты «Ленінскі сцяг» не зразумела палітычнага значэння факта збойства селькора, не ўзняла гэтай справы на прынцыповую вышыню, не ўзяла селькора пад сваю абарону. Гэтым самым раённая газета патурае спробам класава-варожых элементаў зажымаць самакрытыку, патурае праследванню рабселькораў.**

**Спадзяемся, што лёзненскі райком партыі не толькі прыме тэрміновыя меры па фактах, паведамляемых т. Шаірка, але зоймецца ў сувязі з гэтымі фактамі і праверкай усёй работы рэдакцыі сваёй газеты, асабліва работы з рабселькорамі.**

---

Крытычныя заметкі

# Раз, два і гатова...

Паглядзіце камплект жыткавіцкай раённай газеты **«ПРЫМЕЖНЫ КОМУНАР».**

Пачынаючы з 15 ліпеня вы не знойдзеце амаль ніводнага нумара гэтай газеты, дзе не было-б артыкула, заметкі або рэйдавага матэрыяла за подпісам **М. Ястрэмскі.** А бывае, што ў адным нумары некалькі матэрыялаў гэтага аўтара, і ўсё з розных калгасаў, сельсаветаў.

Проста дзіву даешся, як гэта чалавек спраўляецца кожны дзень бываць у новым месцы, пісаць карэспандэнцыі, прымаць удзел у рэйдах і адначасова пісаць перадавыя, артыкулы, правіць рабселькораўскія заметкі, словам, рэдагаваць раённую газету, якая выходзіць праз дзень. Бо да 26 ліпеня «Прымежны комунар» выходзіў за подпісам: **«Нам. адказнага рэдактара ЯСТРЭМСКІ».**

Але калі больш уважліва прыгледзішся да газеты і ўласных твораў тав.

Ястрэмскага, то ўпэўнішся, што дзіўнага нічога няма, што ўся гэта работа робіцца па прынцыпу: цяп-ляп і гатова.

Ноччу з 13 на 14 ліпеня т. Ястрэмскі прымаў удзел у рэйдзе праверкі аховы ураджаю ў калгасах «Пролетарый», «Большэвік» і імя Будзённага. У выніку ў нумары «Прымежнага комунара» за 15 ліпеня з'явіўся вялікі матэрыял (на поўстаронкі) рэйдавай брыгады: **«Стой, хто ідзе?»**

Рыс. А. МАЛЕВІЧА.



**Склад № 1 ціха драмаў...**

У гэтым-жа нумары змешчан другі на 100 радкоў артыкул т. Ястрэмскага: «Улічыць памылкі і дасягненні першага дня ўборкі ў калгасе «III Інтэрнацыянал». Калі меркаваць па стылю, то і перадавы артыкул гэтага нумара «Дакуль будзе працягвацца самацёк у сенazагатоўках» напісан тым-жа Ястрэмскім.

Ці дзіўна пасля гэтага, што ў артыкуле «Стой, хто ідзе?» мы знаходзім такія сказы, як

> **«Гэтыя першыя сігналы аб вылазках класавага ворага ЎПАРТА ПАТРАБУЮЦЬ і павінны паслужыць урокам для ДОБРАГА і ЎВАЖЛІВАГА ЎМАЦАВАННЯ І АДНОСІН да работы па ахове калгаснай уласнасці».**

(Падкрэслена намі:—Рэд. «Б. Д.»).

«Чаго «ўпарта патрабуюць» першыя сігналы? Як гэта сігналы могуць паслужыць урокам для «добрага і ўважлівага ўмацавання (чаго ?!?—Рэд. «Б. Д.») і адносін», т. Ястрэмскі?

А чаго варты, напрыклад, такі сказ у гэтым-жа артыкуле:

> **«Рад вартаўнікоў, якіх на пасту і не засталі спячымі, ЯК ДРОЎ ЗПК, СКЛАД № 1—бышая царква ДСК і інш. Ціха драмалі і можна было падышоўшы ціха рабіць што хочаш».**

Па-першае, што гэта за «дроў ЗПК», па-другое, няўжо склады № 1, ДСК самі сябе вартуюць і «ціха дрэмлюць».

Не, т. Ястрэмскі, вы зараз і самі не разбяраецеся ў тым, што напісалі.

А чытач вашай газеты—калгаснік, працоўны аднаасобнік — напэўна не зразумее такога сказу, як:

> **«Перад комсамольскай арганізацыяй зараз стаіць задача, каб праз комсамольцаў, выхоўваючых іх саміх»...**

(Артыкул М. Варабея «Узняць культмасавую работу ў перыяд уборачнай» у гэтым-жа нумары газеты).

Не зразумее чытач, каго гэта «іх саміх» выхоўваюць комсамольцы.

А вось і яшчэ адзін з «перлаў» уласнай творчасці Ястрэмскага.

> **«Кожная калгасніца жне асобна адна ад другой хто больш выжне? стаіць перад кожным з іх пытанне разгорнута спаборніцтва».**

(Артыкул «Улічыць памылкі і дасягненні першага дня ўборкі ў калгасе «III Інтэрнацыянал»).

Зразумелі што-небудзь? Мы нічога ў гэтай бязглуздзіцы не зразумелі.

---

## ШТАМП і ТРАФАРЭТ

**«Скончылі жніво ячменю».**
**«Жняярка яшчэ не адрамантавана».**
**«Рыгус па-кулацку ігнаруе касу».**
**«Да сяўбы не падрыхтаваліся».**
**«За кулацкія дзеянні — пад суд».**
**«Зладзеі не пакараны».**
**«Цялегі разбазарваюцца».**

Гэта загалоўкі заметак з адной толькі старонкі клімавіцкай, райгазеты **«КОМУНА»** за 28 ліпеня.

Не будзем ужо гаварыць аб тым, што на старонцы—ні аднаго станоўчага факта, (калі не лічыць 12-радковую заметку «Скончылі жніво ячменю»), ні адной заметкі, якая-б перадавала вопыт работы на ўборцы.

Але паглядзіце, які штамп, трафарэт ва ўсіх загалоўках. Прабяжыш вокам гэтыя загалоўкі і ўжо не хочацца чытаць саміх заметак.

А ўсё- таму, што ні тав. **ШОК** (выязная рэдакцыя «Звязды»), ні тав. **КАГАН** (адказны рэдактар «Комуны»), падпісаўшыя гэты нумар газеты, не жадалі папрацаваць над загалоўкамі.

# Загалоўкі і „шапкі“ з каментарыямі

## „...Просты загаловак, бясспрэчна, лепш за усё“

*(К. Маркс, Ф. Энгельс)*

Над усёй першай старонкай газеты «**За большэвіцкія калгасы**» (Сіроцінская МТС) 27 ліпеня «красуецца» такая «шапка»:

### „Руйнуючы ўдар па „зялёных“—кулацкіх настроях“

Ёсць вясёлыя, сумныя, кулацкія і іншыя настроі. Але **настрой** не можа быць «зялёным» (таксама як і «мокрым»).

З матэрыялаў старонкі відаць, што рэдактар Сіроцінскай палітаддзельскай газеты хацеў накіраваць удар па тых работніках, якія разважаюць, што жаць яшчэ не пара (моў, збожжа яшчэ зялёнае) і дапускаюць перастойванне збожжа. Няўжо-ж для таго, каб выказаць гэту простую думку тав. **Пугачову** патрабавалася даваць «шапку»—рэбус?

### „Чаму „Яўнайс Цэльш“ ганебна правальвае ўборку ільну“

Такая «шапка» змешчана ў асвейскай раённай газеце «**Ленінскі шлях**» 28 ліпеня. Перад назваю «Яўнайс Цэльш» не хапае слова «калгас» і гэта зрабіла «шапку» незразумелай. Тым больш, што большасць чытачоў асвейскай газеты не ведаюць латышскай мовы. Не эканомце на адным слове, тав. **Шляфер,** там, дзе гэта слова **патрэбна.**

***

Вышэй мы падалі прыклад з «шапкай» — рэбусам. Але ўсякі рэбус усё-ж такі можна разгадаць. А вось папрабуйце разгадаць загаловак заметкі, надрукаваны ў газеце «**Металіст**» (Віцебск) 22-га ліпеня:

### „Акт ліста“, якія пачалі работу са спазненнем“.

Цікава, аб чым толькі думаў рэдактар «Металіста», друкуючы гэту бязглуздзіцу?

***

Крытыкуючы дрэнную работу аднаго сельсовета, «**Калектывіст Расоншчыны**» даў такі загаловак над заметкай (28 ліпеня):

### „Сельсовет спіць ў шапку“.

Калі рэдакцыя расонскай газеты і далей пойдзе па шляху пераймання няўдалых выразаў, якія яшчэ дзе-ні-дзе можна пачуць, то хутка на старонках «Калектывіста Расоншчыны» будзем чытаць такія загалоўкі: «Сельсовет працуе на вялікі палец», «Шамоўку ў калгасе не арганізавалі» і т. д. Памятайце, тав. **Гурчонак,** не ўсякі выраз, што пачуеце на вуліцы, можна друкаваць у газеце.

Калі верыць **пухавіцкай** газеце «**За калгасы**», то ў Пухавічах злачынцы на дзіва свядомыя. Яны самі просяцца на лаву падсудных. Аб адным такім факце газета паведамляе 2-га жніўня ў «шапцы»:

### „Капскі і Крук просяцца на лаву падсудных“

Няўдалая «шапка», тт. **Лаўкет** і **Панкратаў,** што і гаварыць.

***

Чэрыкаўская газета, «**Соцыялістычная перамога**» 28-га ліпеня парадавала сваіх чытачоў такім загалоўкам:

### „Самацёк!“

Адзіны дадатны бок гэтага загалоўка хіба толькі тое, што ён кароткі. Што-ж

ґазета хацела выказаць ґэтым загалоўкам: ці то радавалася яна самацёку, ці была абурана ім—астаецца сакрэтам рэдакцыі.

Працоўныя ўжо даўно пачалі забываць выдуманых папамі і капіталістамі «святых жыхароў неба». **Веткаўская-ж** раённая газета **«За большэвіцкія тэмпы»** палічыла патрэбным уваскрасіць памяць **аб іх на сваіх старонках.**

## „Вінават не прарок Ільля а Ізмерг і Лапаценка“.

Такі загаловак надрукован ў веткаўскай газеце 29 ліпеня. Пакінце ў спакоі «прарокаў», тав. **Длугашэўскі!**

***

30 ліпеня чытачы **пёзненскай** раённай газеты **«Ленінскі сцяг»** чыталі ў ёй такі загаловак:

## „Глухаваты“ сельсовет“.

**Відаць, самому** рэдактару загаловак не спадабаўся і ён рашыў пасобіць **справе, узяўшы слова** «глухаваты» ў двукоссі. Але двукоссі не ратуюць **становішча: нятрапны** загаловак, тав. **Мінчукоў!**

## „Хвароба на лжэўдарніцтва“.

**Гэта загаловак** заметкі з газеты **«Сталінец»** (Белэнергакамбінат) за 4 чэрвеня. Загаловак няўдалы. Атрымалася-ж так таму, што рэдакцыя «Сталінца» некрытычна падышла да скарыстання няправільнага народнага выразу.

***

I, нарэшце, загаловак:

## „Упарадачыць з раздачай супа парасятам“.

змешчаны ў газеце **«За соцыялістычную свінагадоўлю»** (соўгас **«Вейна»,** Магілеўскага раёна). Загаловак пабудован няправільна і таму вышаў такім грамоздскім. А ці не лепш было-б напісаць проста: **«Упарадкаваць раздачу супа парасятам».**

**ТРЭБА БОЛЬШ ДУМАЦЬ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЗДАВАЦЬ ЗАГАЛОВАК У ДРУК, ТАВАРЫШЫ!**

# ВІТРЫНА БРАКУ

## «ЗАВОДСКІ ПАРСЮК РАСКАЗАЎ»

У свой час «Бальшэвіцкі друк» расказаў аб цяп-ляпкіных з рагачоўскай раённай газеты, якія вынайшлі «цуды»—падслухалі гутарку канапель і запісалі іх скаргу самому рэдактару «Комунара».

Шкада, што гэтай скаргі не чыталі ў Крупках і, у прыватнасці, рэдактар раённай газеты тав. **Лявоненка.**

У гэтай «скарзе» яны ўбачылі-б поўнае адлюстраванне сваіх уласных памылак. 24 ліпеня крупская раённая газета пазайздросціла, што **«Добра жывецца раскрадвальнікам на маслазаводзе»** (такі «баявы» загаловак брыгаднай заметкі). І, пазайдросціўшы, расказала, што:

> **«Заводскі парсюк не раз кажа, што ў вочы не бачыць сыраватку, якая прызначана для яго адкорму».**

**Рыс. А. МАЛЕВІЧА.**



Дзіўна, якой гэта мовай гаварыў закінуты «парсючок», што брыгада так дакладна магла яго запісаць. Раім рэдакцыі залічыць гэту небывалую яшчэ вынаходку ў баланс сваіх «дасягненняў» на мовазнаўчым фронце, абвясціўшы праз пэўны час усераённую «пераклічку заводскіх парсюкоў».

## ЗАЧЫРЫКАЛІ

Паглядзіце ўважліва, т. **БУРДО,** на мову другой старонкі вашай газеты

*Рыс. А. Малевіча*




**«Чырвоны трактарыст»** (Жлобін) за 29-е ліпеня.

> **«Чыр. рошча», «Чыр. Окцябр», «Чыр. гарадок», «Чыр. ніва», «Чыр. баец», «Чыр. сад», «Чыр. горкі», «Чыр. партызан», «Чыр. Карма», «Чыр. Зара».**

Не мова, а суцэльнае чырыканне.

## АБОЗЫ З ПЕСНЯМІ

Ці бачылі вы калі-небудзь абоз з песнямі? Калі не, то раім вам з'ездзіць у Крупскі раён, каб упэўніцца, што могуць быць не толькі чырвоныя абозы з бульбай, збожжам, сенам і т. д., але і з песнямі.

Паглядзіце № 87 аб'яднанай газеты **выязной рэдакцыі «Звязды»** і крупскай раённай газеты **«Комуністычны шлях»** за 31-е ліпеня. Там буйнымі літарамі надрукавана:

> **«Так, абоз з абозам з песнямі, з гармошкай сустракаюць калгасы і працоўныя аднаасобнікі юбілей «Звязды».**



# Ініцыятыва нізоўкі

**✱ Перапіску знатных людзей Совецкага Саюза,** пачатую па ініцыятыве **«Крестьянской газеты»,** арганізуе зараз і газета **«Калгаснік Беларусі».** Гэта перапіска ставіць задачай дапамагчы рабочым і калгаснікам Совецкай Беларусі падзяліцца праз друк вопытам сваёй работы.

29 ліпеня газета змясціла **пісьмо майстра механа-зборачнага цэха завода «Гомсельмаш» тав. Гаранскага калгаснаму брыгадзіру тав. Страху Пракопу,** прэміраванаму палітсектарам МТС Наркамзема БССР і рэдакцыяй «Звязды». Тав. Гаранскі расказвае праз старонкі «Калгасніка Беларусі» аб метадах сваёй работы, аб тым, як рос і авалодваў тэхнікай вытворчасці рабочы калектыў буйнейшага завода БССР.

Рэдакцыя «Калгасніка Беларусі» арганізуе **сустрэчу знатных людзей соцыялістычных фабрык з ударнікамі калгасных палёў.**

**✱ Калышанцам—героям соцыялістычнага ільнаводства,** якія першымі ў раёне завяршылі ўборку ільну—лёзненская раённая газета «Ленінскі сцяг» прысвяціла спецыяльны нумар. У артыкулах старшыні сельсовета Пастушонка Сяргея і старшыні калгаса Казлова газета расказала аб метадах ударнай работы калгаснікаў-ільнаводаў Калышанскага сельсовета.

«Калышанцы ў гэтым годзе, — гаворыцца ў прывітанні райкома партыі, — канчаюць церабленне ільну на месяц раней мінулага года, бо самааддана, пагеройску змагаюцца за лозунг райкома КП(б)Б «зрабіць лёзненскі лён лепшым у БССР».

**✱ Мітынг-пераклічку лепшых сельсоветаў** прадаўжае чэрвеньская газета **«Калектывіст».** Уключыўшыся ва ўсебеларускі конкурс на лепшы сельсовет яшчэ ў маі месяцы, газета пачала сістэматычна змяшчаць аператыўныя падборкі і цэлыя старонкі аб рабоце культурных, фінансавых, дарожных, а зараз і сельска-гаспадарчых секцый сельсоветаў. Агляд фінансавых секцый значна дапамог партыйнай арганізацыі Чэрвеньшчыны выйсці ў рады перадавых раёнаў па выкананню фінплана і рэалізацыі пазыкі.

Агляд дарожных секцый, праведзены на старонках раённай газеты, узняў работу сельсоветаў, ячэек Аўтадора, дарожных участкаў. За своечасовае выкананне плана дарожнага будаўніцтва Чэрвеньскі раён прэміраван 7.000 руб.

Зараз раённая газета ўключыла ў агляд усе сельска-гаспадарчыя, жывёлагадоўчыя секцыі сельсоветаў.

**✱ Клічаўская партыйная арганізацыя разгортвае падрыхтоўку да 3-га Ўсебеларускага з'езда рабселькораў.** Бюро Клічаўскага РК КП(б)Б. аб'явіла з 21 ліпеня агляд работы нізавога соўтасна-калгаснага друку і прымацавала да кожнага сельсовета па 2 кіруючыя работнікі, якія абавязаны дапамагчы нізавым газетам правесці агляд. Агляд праводзіцца пад лозунгам барацьбы за паспяховае сканчэнне ўборкі ільну, зернавых і бульбы, за выкананне ўсіх відаў загатовак, за лепшыя паказальнікі ў жывёлагадоўлі.

У верасні склікаецца раённы злёт селькораў, які абмяркуе чарговыя задачы нізавога друку і селькораў у разгортванні жывёлагадоўлі і вынікі праверкі рэагавання на допісы працоўных.

**✱ Арганізацыяй семінара для рабкораў,** правядзеннем агляду цэхавага друку адзначае падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў шматтыражка Белэнергакамбіната «Сталінец». Партком камбіната склікае злёт рабкораў

і прэміруе лепшых ударнікаў-актыўных удзельнікаў нізавога друку.

✱ **«Вопыт Асмолаўскага і даглядчыцы цялят Уткінай—ва ўсе калгасныя фермы».** Пад такім аншлагам клімавіцкая раённая газета **«Комуна»** дае старонку з паказам лепшага вопыта работы калгасных ферм раёна. У старонцы выступае загадчык конегадоўчай фермы калгаса «Палітаддзелец» тав. Асмалоўскі, якога за ўзорную работу Наркамзем СССР прэміраваў 300 руб. Тав. Асмалоўскі расказвае аб сваіх «лепшых конях у раёне», аб правільным іх доглядзе, пашпартызацыі, добрай пашы. Загадчык свінагадоўчай фермы калгаса «III Інтэрнацыянал» расказаў праз старонкі раённай газеты аб тым, як ударніцы-свінаркі змагаюцца за поўнае захаванне прыплоду.

✱ **Выязную рэдакцыю ў Хутарскі сельсовет** накіравала чэрвеньская раённая газета **«Калектывіст».** Работнікі выязной рэдакцыі дапамагаюць рэдкалегіям нізавых газет і селькорам рыхтавацца да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Своечасовае і высокаякаснае завяршэнне ўборкі і хлебапаставак, узорнае выкананне селькорамі сваіх вытворчых заданняў —вось задачы, за выкананне якіх зараз змагаюцца селькоры Чэрвеньшчыны.

Выязная рэдакцыя арганізуе ў Хутарскім сельсовеце **семінар для селькораў.** Займацца ў семінары будуць селькоры ўсяго сельсовета.

✱ **Лепшыя селькоры-ўдарнікі Чырвонаслабодскага раёна** Іванейчык Васіль, Амяльковіч Владзімір, Рамашка Ігнат, Шадрук Владзімір, Наўмовіч Аляксей Драбеня Майсей, Бурмак Мікалай, Кляпко Віктар і Ганчар Алесь прэміраваны на 2-ім раённым злёце рабселькораў. Тав. Іванейчык, як лепшы селькор і рэдактар калгаснай насценгазеты, пасылаецца на вучобу ў Магілеўскі газетны тэхнікум.

✱ **«Комуністычны шлях»**—крупская раённая газета—уключае ў актыўную работу ў нізавым калгасным друку ўсіх студэнтаў, якія прыехалі на летні адпачынак у раён. Па гэтаму пытанню рэдакцыя праводзіць спецыяльную нараду з удзелам усіх прыехаўшых у раён студэнтаў.

✱ **Убіраць хутка і без страт!** Слуцкая раённая газета **«Ленінскі шлях»,** правераўшы якасць уборкі, выявіла вялікія страты ўраджаю. У калгасе «КІМ», Амговіцкага сельсовета, страты ўраджаю даходзілі да двух цэнтнераў на гектар. Вільготнасць здаваемага дзяржаве зярна дасягала ў асобных калгасах 19 проц.

Выкрыўшы гэтыя факты, рэдакцыя ў аператыўным парадку накіроўвае ў калгасы друкаваную тэлеграму-маланку. Пад баявым заклікам «Убіраць хутка і без страт» газета расказала аб канкрэтных зрыўшчыках уборкі, паказала на буйныя страты ўраджаю пры ўборцы, выявіла рад канкрэтных недахопаў у выкананні плана хлебапаставак.

✱ **Усебеларускае спаборніцтва рабселькораў** у адзнаку падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў прапануюць абвясціць рабкоры-ўдарнікі ізотаўцы фабрыкі **«Пролетарская перамога».** У змешчаным у газеце **«Рабочий»** пісьме рабкоры выклікаюць на соцыялістычнае спаборніцтва рабкораў і нізавы фабрычны друк запалкавых фабрык БССР.

Газета «Рабочий» прысвячае падрыхтоўцы да 3-га ўсебеларускага з'езда спецыяльную старонку.

✱ **«Калгаснік на варце»**—лельчыцкая раённая газета мабілізуе селькораў на падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. 31-га ліпеня газета змясціла спецыяльную старонку з матэрыяламі падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда. Яе асноўны лозунг: **«За права ўдзелу ва ўсебеларускім злёце рабселькораў павінен змагацца кожны ўдзельнік большэвіцкага друку».**

✱ **«Трыбуну парторга»** прадаўжае друкаваць на сваіх старонках барысаўская раённая газета **«Большэвік Барысаўшчыны».** Праз гэту трыбуну парторгі асобных прадпрыемстваў абменьваюцца вопытам сваёй партыйна-масавай работы.

✱ **Раённую пераклічку вартаўнікоў калгаснага ўраджаю** праводзіць на сваіх старонках рагачоўская раённая газета **«Комунар».**

# ШТО НОВАГА

у палітаддзельскім друку

✱ **«Удэрнік»**—газета палітаддзела Жлобінскага аддзялення Заходніх чыгунак—друкуе пастанову палітаддзела чыгункі аб перавыбарах засмечанай класава-варожымі элементамі рэдкалегіі насценгазеты станцыі **Гарочыцы.** Насценную газету гэтай станцыі ўзначальвалі **Кучынскі і Дронін,** якія не толькі не падавалі прыкладу ў рабоце, а самі груба парушалі працоўную дысцыпліну, не выконвалі даных ім даручэнняў, цкавалі лепшага стрэлачніка дарогі, дэмабілізаванага чырвонаармейца Трошку.

У перадавым артыкуле спецыяльнага нумара, прысвечанага гэтай справе, палітаддзельская газета завастрае ўвагу на ўзмацненні штодзеннага партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам, на разгортванні самакрытыкі і паляпшэнні якасці ўсёй работы нізавых газет чыгункі.

✱ **Мацнеюць рады баявых змагароў за большэвіцкія калгасы**—расце сетка палітаддзельскіх газет Совецкай Беларусі. 21 ліпеня вышаў першы нумар новай газеты палітаддзела 2-й Лёзненскай МТС **«Калгасны ўдарнік»,** 23 ліпеня пачала выходзіць новая палітаддзельская газета Буда-Кашалеўскай МТС — **«Сцяг Леніна».**

✱ **«За большэвіцкія калгасы»**—газета палітаддзела Рагачоўскай МТС друкуе агляд-паказ узорнай работы насценгазеты 2-й брыгады калгаса імя Молатава. Насценгазета па-баявому змагаецца за хутчэйшую і без страт уборку, за своечасовы разлік з дзяржавай па хлебапастаўках. Яшчэ 28 чэрвеня газета звярнулася да калгаснікаў з заклікам: «Пагода залатая—не траціць ні мінуты». Выпуск апаратыўных нумароў на касьбе, а зараз і на жніве, правядзенне рэйдаў, разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва брыгадзе—вось важнейшыя паказальнікі праведзенай работы брыгаднай насценгазетай «За большэвіцкі ўраджай».

✱ **«Юны ленінец»**—новую друкаваную газету для дзяцей—пачаў выдаваць палітаддзел Аршанскай МТС. 26-га ліпеня вышаў другі нумар «Юнага ленінца». У невялічкіх аператыўных падборках, згрупаваных з пісем саміх дзяцей, газета мабілізуе калгасную дзетвару на выкананне трох важнейшых задач сёнешняга дня: на збор каласоў, на падрыхтоўку да навучальнага года і шэфства над маладняком.


СЦЯГ ЛЕНІНА

ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКАЯ ГАЗЕТА—МАГУТНАЯ ЗБРОЯ У БАРАЦЬБЕ ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ КАЛГАСЫ

КАЛГАСНЫ ЎДАРНІК

№ 1

УБОРКАЙ БЕЗ СТРАТ, САРТАВАННЕМ ІЛЬНУ ПРЫ ЦЕРАБЛЕ

даб'ёмся высокай нумарнасці ільна-валакна

Моцнай і вострай зброі палітаддзела і МТС

Аб ходзе церабления ільну

**Яшчэ 2 новыя палітаддзельскія газеты БССР — «Сцяг Леніна» (Буда-Кашалёўская МТС) і «Калгасны ўдарнік» (2-ая Лёзненская МТС).**

---

Газета жыва падхапіла і папулярызуе ініцыятыву дзяцей калгаса «Парыжская комуна», якія арганізавалі збор і сушку на корм маладняку зялёных галінак арэшніку, асінніку, бярэзніку і малінніку.

✱ **«Па ленінскім шляху»**—газета палітаддзела **Лагойскай МТС**—друкуе **пісьмо рэдактароў насценгазет калгаса** імя Карла Маркса, якія выклікаюць усе рэдкалегіі і селькораў раёна на соцспаборніцтва па уборцы і хлебапастаўках. Рэдактары брыгадных насценгазет калгаса імя Карла Маркса абавязаліся праз нізавы друк праверыць выкананне калгаснікамі ўзятых абавязацельстваў па спаборніцтву, правесці рэйд праверкі барацьбы са стратамі, арганізаваць з селькораў пасты і дазоры па ахове ўраджаю.



Менгорліт № 5246. Менск, друкарня «Звязда».

